PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 5 (2177) Год XLIII Беласток 1 лютага 1998 г. Цана 1 зл.



*Сардэчна дзякуем нашым чытачам за ўсе калядныя і навагоднія віншаванні і жадаем ім такой прыгожай зімы, як на здымку Уладзіслава Завадскага.*

# Абаранак Пілсудскага

**З дырэктарам Беластоцкага асяродка Польскага тэлебачання Казімежам ПУЦІЛОЎСКІМ гутарыць Аляксандр Вярбіцкі.**

*— Пан дырэктар, тут на Беласточчыне Беларускі саюз сабраў дзесяць тысяч подпісаў...*

— Так, я чуў пра гэта ад прадстаўнікоў Беларускага саюза.

***— Я спадзяваўся, што гэты факт будзе адлюстраваны ў рамавай праграме Беластоцкага тэлецэнтра, бо ж тут жыве прыстойная група людзей, якія карыстаюцца — не літаратурнай, праўда — але ўсё ж такі беларускай моваю. Здзіўляе мяне абыякавасць да іх.***

— Я не пагаджаюся з вашым здзіўленнем. Пуск нашай „тройкі" стварае патэнцыяльныя часовыя магчымасці, а да іх поўнага выкарыстання яшчэ ў нас доўгі шлях. Пра тое, як мы будзем працаваць, вырашае некалькі фактараў. Гэта і тэхніка, і вельмі абмежаваныя сродкі, якія прымушаюць нас купляць, намнога таннейшыя ад уласнай прадукцыі, вонкавыя праграмы. Тут таксама пытанне і пра людзей, якія ў змозе рабіць добрыя перадачы. І ўсё гэта абумоўлівае тэмпы, у якіх мы зможам даваць уласную, пакуль невялікую, прадукцыю. І калі я буду мець пэўны бюджэт, тады я ў першую чаргу мушу гарантаваць рэалізацыю таго што маем і ў меру наяўнасці рэшты вольных сродкаў змагу састаўляць планы стварэння ўласных праграмаў. Сёння ў нас праграмная палітыка простая: робім спробы рэалізацыі розных праграмаў, даючы шанц усім, каб маглі прабіцца мерытарычна вартасныя. Сёння я яшчэ не магу адказаць, якія пастаянныя пазіцыі мецьмуць месца на нашай антэне: ад чаго будзем адказваць, што будзем пашыраць. А што кранае меншасцей, дык і тут астаюцца ў сіле тыя прынцыпы, якія абавязвалі дагэтуль у „двойцы": апрача пастаянных тэрмінаў, пра тое, якія пазіцыі пойдуць далей у эфір, будуць вырашаць іх мерытарычныя якасці: будуць добрыя прапановы — будзем думаць пра іх пуск. Не пойдзем аднак шляхам найперш стварэння рэдакцыяў і набору на працу ў іх людзей дзеля толькі другіх чым мерытарычныя прынцыпы. З гэтай прычыны ўзнік канфлікт паміж намі і Беларускім саюзам, які намагаецца вонкавым націскам сфармалізаваць тварэнне аддзельнай рэдакцыі і расшырэнне блока беларускамоўных перадач. Мы, па розных прычынах, не можам пагадзіцца з гэтым, аднак не абмяжоўваем прапаноў стварэння добрых праграмаў нацыянальнымі меншасцямі; вядома — у рамках нашых магчымасцей.

***— Добрая мерытарычная прапанова: што гэта такое?***

— Апрача прапаноў ад людзей, якія ў нас працуюць, я чакаю прапаноў звонку. Вось вы прадстаўляеце сваю рэдакцыю; я нават збіраўся званіць да вас, бо праводжу цяпер апытанне не толькі ў беластоцкім асяроддзі, але і ў глыбінцы, каб заахвоціць усіх да супрацоўніцтва з намі. Вось і вы таксама маеце такую магчымасць супрацоўнічаць з намі і даць ідэю добрае перадачы. Добрая — гэта і прафесіянальны ўзровень, і зацікаўленне ды прыцягненне гледача. Аглядальнасць нашых перадач вельмі для нас важная, бо стварае магчымасць падзарабіць; хаця мы называемся публічнай тэлевізіяй, аднак наш абанемент меншы чым у радыё, а кошт прадукцыі большы. Дзеля гэтай мэты неўзабаве пачынаем выпуск тэлетэкста.

Праблема падыходу да нацыянальных меншасцей складаная. Я поўнасцю згаджаюся з колішнім меркаваннем Юзафа Пілсудскага, што Польшча нагадвае абаранак, дзе найлепшае на берагах. І гэта наш козыр, толькі трэба ім паслугоўвацца не фармальна, а добра. Я ўжо правёў у тэлецэнтры гутарку, каб праграмы пра нацыянальныя меншасці не прывялі да г.зв. гетызацыі тых меншасцей — да іх абмежавання толькі да тых меншасцей. Добра было б знайсці такую формулу іх паказу, каб меншасці са сваімі праблемамі выходзілі ў шырэйшае асяроддзе. І я не ўпэўнены, ці такая разбудова дзеля самое разбудовы не зробіць больш шкоды чым карысці і для меншасцей, і для тэлебачання. Бо я, як загадчык тэлецэнтра, быў бы вельмі незадаволены, калі б завужваўся круг гледачоў нашых праграм, бо гэта ўплывала б і на нашы ацэнкі звонку, і на

[працяг ☞ 4]

## У нумары

# Мы прачыталі

*Усё ідзе як трэба. 1997 год стаў годам усталявання беларускага нацыянальнага прадукту. Не савецкага беларускага, а менавіта нацыянальнага. Пры сустрэчы з якім савецкі не вытрымлівае канкурэнцыі і саступае месца. Пакуль што, гэта тэндэнцыя, якая больш тычыцца культуры і эканомікі, але яна будзе нарастаць і ў недалёкім часе сягне сферы палітыкі.*

*Напэўна яшчэ не забыліся, як скончыўся 1996 год і які настрой тады панаваў. Здавалася, што разам з разгонам парламента скончаецца Беларусь. Усё аднак адбылося паводле законаў рынку. Вярхоўны Савет апынуўся менш канкурэнтаздольным, а значыць больш савецкім і менш нацыянальным, чым сённяшні рэжым з усёй яго адыёзнасцю да нацыянальнага. Таму і пацярпеў паразу.*

*Сённяшні рэжым аказаўся больш карысным для ўсведамлення Еўропай Беларусі як сваёй неад'емнай часткі, чым кволы Вярхоўны Савет. А спытайце прадаўцоў у беларускіх крамах якое піва ці гарэлку людзі купляюць. Калі няма нашага, беларускага прадукту — „Крышталя", „Траецкага", „Старажытнага", „Льва", тады купляюць савецкае — „Жигулёвское", „Русское". Нашае, значыць больш якаснае,* — піша

*Наша ніва, н-р 36*

Безумоўна, нават свой рэжым больш якасны, чым нейкі афрыканскі.

* * *

*Komunizm tak jak faszyzm trzeba zanalizować i opisać. Według obliczeń historyków liczba ofiar komunistycznego terroru wynosi około 95 mln osób; w tym 20 mln zabitych w ZSRR, 65 w Chinach, 2 mln w Korei, 2 mln w Kambodży, 1 mln w Wietnamie, 1 mln w Europie Wschodniej, 1,7 mln w Afryce, 1,5 mln w Afganistanie. Palma pierwszeństwa bezsprzecznie przypada Kambodży, gdzie tamtejsi komuniści Pol Pota w ciągu 3 lat panowania w okrutny sposób wymordowali czwartą część całej ludności kraju.*

*Naziści odpowiadają za śmierć około 25 mln osób, system nazistowski w 1945 r. był uznany za najbardziej kryminalny. Natomiast komunizm odpowiedzialny za sto milionów ofiar cieszył się nadal po 1991 r. uznaniem międzynarodowym, zachował adeptów na całym świecie. Zbrodnie rosyjskich komunistów, obozy koncentracyjne kwalifikują się jako zbrodnie przeciwko ludzkości. W latach 1825-1917 stracono w Rosji 6 321 więźniów politycznych. Ludobójczy system państwa Lenina i Stalina jest w tym zakresie nieporównywalny.*

*Polityka, nr 2*

* * *

*Dlaczego posłowie SLD bronią się przeciwko ograniczeniu immunitetu poselskiego?* — пытае

*Gazeta w Białymstoku, nr 8*

Мы таксама не ведаем.

* * *

*Wojsko, armia nie służy do zabawy, lecz do niszczenia wroga, w razie potrzeby zabijania go. Taka jest każda armia,* — сказаў генерал Аўгуста Пінačэт.

*Polityka, nr 2*

* * *

*W liście adresowanym z okazji świąt Bożego Narodzenia do żołnierzy generał brygady arcybiskup Sawa napisał m.in.: „Chwała na wysokościach Bogu, a na ziemi pokój ludziom, w których ma upodobanie — w sposób szczególny prawdę tę powinni uświadomić sobie ludzie w mundurach. Pomimo wszelkiego rodzaju trudności i odpowiedzialności wzniosłej służby, żołnierze są zawsze orędownikami pokoju na świecie".*

*Gazeta w Białymstoku, nr 6*

* * *

*Capri to nie tylko wyspa włoska, to także nazwa zespołu muzycznego, którego można posłuchać na zabawie w Morzu lub weselu w Gródku. W Białymstoku działa ponad dwieście kapel, które zapewniają imprezom oprawę muzyczną. Spośród nich „Capri" różni się tym, że w ogłoszeniach dodaje sobie przymiotnik — zespół prawosławny. Z trzech członków zespołu tylko jeden jest wyznania prawosławnego. Śpiewają utwory „sierdceszczipatielnyje", które niejednej kobiecie wyciskają łzy z oczu. Właśnie z zamiłowania do prostoty i naturalności mieszkańców Białostocczyzny wyrastają korzenie disco polo.*

*Kurier Podlaski, nr 4*

* * *

*Białoruś tkwi na mieliźnie. Kto sobie chce może tamtejsze władze szanować. Ale jak one mogą ten nieszczęsny kraj zepchnąć w nurt jakiejkolwiek poprawy. Własnych białoruskich sił ledwo starcza na biologiczną wegetację o poziomie, który stanowi już rzadkość w Europie. Pomoże Rosja? Sama biedą żyje. I wcale do tego pomagania się nie kwapi. Zachód ostentacyjnie zrażono. Sympatyczny on mniej lub więcej, ale tam są prawdziwe pieniądze, technologie, rozwojowe wzorce. Można sympatyzować z białoruską opozycją demokratyczną. Ale jednak, jak dotąd, nie przekonała ona nikogo, że ma pomysł na zejście z mielizny. Tworzy tę opozycję elitarna mniejszość. Żadne „wyzwolenie" kraju nie wchodzi w rachubę. I, analogicznie, żadna światowa pomoc, dopóki prołukaszenkowska pozostaje większość Białorusinów. Czym to zmienić? Teoretycznie w Polsce są najlepsze warunki dla zrozumienia ambicji białoruskich. Ale praktycznie? Potoczna znajomość w Polsce problemów tej sąsiedniej kultury i polityki nie wznosi się nad poziom analfabetyzmu.*

*Kurier Poranny, nr 8*

# З мінулага тыдня

**Сабор епіскапаў** Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы даручыў архіепіскапу Беластоцкаму і Гданьскаму, ардынарыю Праваслаўнага ардынарыята Войска Польскага ген. **Саву** абавязкі ўпраўляючага Варшаўска-Бельскай епархіяй. Гэтае рашэнне прынята ў сувязі з цяжкай хваробай мітрапаліта Варшаўскага і ўсяе Польшчы **Васілія**, які ўзначальвае Варшаўска-Бельскую епархію. Архіепіскап Сава застанецца ў Беластоку і абедзвюма епархіямі будзе кіраваць па сумяшчальніцтву.

**Консул** Рэспублікі Беларусь у Гданьску **Анатоль Бутэвіч** закончыў сваю дыпламатычную місію ў Польшчы. Ён — перакладчык польскай літаратуры; перакладаў на беларускую мову творы Станіслава Лема, зараз перакладае раман Элізы Ажэшка „Над Нёманам".

**Ліст польскім уладам** у абарону беларускага бізнесмена **Аляксандра Пупейкі**, які ў варшаўскім арышце чакае судовага разгляду патрабавання беларускага боку аб яго экстрадыцыі, падпісалі 34 пісьменнікі і дзеячы дэмакратычнай апазіцыі. Пупейка, які падтрымоўваў апазіцыю (м.ін. фінансаваў фільм Юрыя Хашчавацкага „Звычайны прэзідэнт"), абвінавачваецца ў незаконным атрыманні банкаўскага крэдыту. Аўтары ліста прыпамінаюць, што ў Беларусі няма незалежных судоў і лічаць, што справа Пупейкі мае палітычную падаплёку.

**Польшча** павінна лепш ахоўваць і ажыццяўляць правы нацыянальных меншасцей, асабліва цыганоў, — падказвае Камітэт па справах устаранення расавай дыскрымінацыі пры ААН. Камітэт пераслаў Міністэрству юстыцыі заўвагі аб сітуацыі меншасцей у Польшчы. На яго думку, Польшча павінна прыняць дадатковыя меры па гарантаванні меншасцям права на працу, жыллё і па забеспячэнні іхным дзецям шырэйшага доступу да асветы на іх роднай мове.

**Дзеячы** Агульнапольскага саюза аховы купцоў і работадаўцаў у Беластоку ўхвалілі пратэст супраць „рэзкага і рэстрыкцыйнага абмежавання прыгранічнага абмену асобамі" пасля ўвядзення Польшчай новага закона аб іншаземцах. Купцы лічаць, што абмежаванне прыгранічнага абмену давядзе да спынення развіцця прадпрымальніцтва ў рэгіёнах, у якіх „без грамадскіх коштаў узнікла вялікая колькасць месц працы для абслугоўвання прыгранічнага абмену". Пратэст накіраваны быў віцэ-прэм'еру **Янушу Тамашэўскаму** — міністру ўнутраных спраў і адміністрацыі.

**Беластоцкія паслы** ад Акцыі выбарчай „Салідарнасць" **Кшыштоф Юргель і Мар'ян Блехарчык** звярнуліся да кіраўніка Міністэрства замежных спраў з інтэрпеляцыяй у сувязі са складанасцямі, якія выклікаў новы закон аб іншаземцах. На іх думку, абмежаванне гранічнага руху пагражае функцыянаванню прыгранічных прадпрымальнікаў і гандляроў. З моманту ўвядзення новага закона апусцелі прыгранічныя базары, у тым ліку і базар па вуліцы Кавалерыйскай у Беластоку, дзе знаходзіцца тры тысячы гандлёвых месц. Абароты гэтага найбольшага на ўсход ад Віслы рынку ў Польшчы зменшыліся на 80%. Беластоцкія парламентарыі просяць міністра прыняць неабходныя меры для нармалізацыі ўзніклай сітуацыі.

**Юзэф Клім** з Уніі вольнасці прызначаны на пасаду беластоцкага віцэ-ваяводы. Ён — адзін з намеснікаў старшыні Рады горада Беластока і дырэктар V Агульнаадукацыйнага ліцэя. У Ваяводскай управе будзе адказваць за бюджэтную сферу — школьніцтва, ахову здароўя і сельскую гаспадарку.

# Весткі з Беларусі

**Гандлёвая забастоўка**

Дзесяткі тысяч гандляроў баставалі 15 студзеня г.г. у Гродне, Брэсце, Баранавічах, Оршы, Полацку, Наваполацку і Пінску. Прычынай пратэсту з'яўляецца дадатковы падатак, які абавязаны яны заплаціць аднаразова ад сумы мінулагодняга абароту. Да гэтай пары дробныя бізнесмены плацілі штомесячны падатак. Дадатковы падатак — гэта палова гадавога абароту. Бізнесмены выслалі лісты з подпісамі пяці тысяч чалавек старшыням Вышэйшага гаспадарчага суда і Канстытуцыйнага трыбунала ды міністру прадпрымальніцтва і інвестыцый з просьбай дапамагчы абараніць прыватны сектар гаспадаркі.

**Абвінавачванне апазіцыі**

На думку лідэра БНФ Зянона Пазьняка, нядаўнія паведамленні Беларускага тэлебачання аб падрыхтоўцы апазіцыі да дзяржаўнага перавароту ў Беларусі з'яўляюцца правакацыяй у НКУСаўскім стылі і распаўсюджваюцца з мэтай здушэння апазіцыйных сіл. У інфармацыйнай праграме БТ „Рэзананс" ад 11 студзеня г.г. паведамлялася, што апазіцыя ў Менску атрымае 32 млн. долараў на арганізаванне дзяржаўнага перавароту. Паказваўся таксама дакумент з чатырох старонак на беларускай мове, без подпісаў і пячатак, паводле якога каардынатарам звяржэння цяперашніх беларускіх улад мае быць, між іншым, прабываючы ў ЗША Зянон Пазьняк.

**Група АБСЕ ў Беларусі**

3 лютага ў Менску пачне работу кансультатыўна-назіральная група АБСЕ, — паведаміў кіраўнік групы Ганс Георг Вік, які прыязджаў у беларускую сталіцу для ўзгаднення аспектаў яе дзейнасці. Спадар Вік правёў перамовы з прэзідэнтам Беларусі, кіраўнікамі абедзвюх палат парламента, міністрам замежных спраў і іншымі асобамі. У выніку мемарандум аб паразуменні падпісалі прадстаўнікі АБСЕ, уладных структур рэспублікі і дзеячы апазіцыі. Кіраўнік групы падкрэсліў, што мэтай работы групы ў рэспубліцы стане аказанне дапамогі ва ўдасканаленні заканадаўчай базы развіцця дэмакратычных інстытутаў, а таксама вырашэнне пытанняў, звязаных з захаваннем правоў і свабод чалавека. Спадар Вік таксама адзначыў, што ў дадзеных рамках сфера дзейнасці групы ў рэспубліцы неабмежавана. Паводле яго слоў, дзейнасць групы АБСЕ ў Беларусі таксама не мае часовых рамак. Ганс Георг Вік запэўніў, што члены групы будуць весці дыялог як з прадстаўнікамі ўлады, так і апазіцыйных палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў, а таксама з усімі іншымі зацікаўленымі бакамі.

**Гадавіна візіту**

„Візіт прэзідэнта ЗША ў Менск дэманстраваў нашу падтрымку новай дэмакратыі, станаўленне якой ускладнялася страшным грузам наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС і праблемамі пераходнага перыяду", — гаворыцца ў заяве пасольства ЗША ў Беларусі ў сувязі з чатырохгоддзем з дня наведання Менска прэзідэнтам ЗША Білам Клінтанам. Гэта падзея адбылася 15 студзеня 1994 года. Сёння амерыканскія дыпламаты заявілі, што Злучаныя Штаты па-ранейшаму хочуць бачыць Беларусь інтэграванай у шырокай еўрапейскай супольнасці, але для гэтага неабходна працягваць у рэспубліцы палітычныя і эканамічныя рэформы.

**Экранізацыя Жаромскага**

Вясною Беларускае тэлебачанне намерваецца паказаць шматсерыйны фільм Уладзіміра Арлова „Пракляты выгадны дом", зняты на аснове рамана Стэфана Жаромскага „Верная рака". Складаецца ён з 33 гадзінных частак. Акцыя фільма адбываецца падчас паўстання 1863 года на заходняй Беларусі.

**Два фільмы**

Любоў да роднай культуры, да гісторыі роднага краю аб'яднала два дакументальныя фільмы, прэм'ера якіх адбылася нядаўна ў менскім Доме літаратара. Першая стужка — пра жыццё і творчы лёс беларускага пісьменніка Міхася Стральцова „Конь гуляў на волі". „Крэва" — загаловак другога фільма, прысвечанага гісторыі аднаго са старажытных замкаў Беларусі. Пасля прэм'ернай дэманстрацыі кінастужак прысутныя сустрэліся з іх аўтарамі.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- Шлях смерці пралягае цераз Чаромху і Белавежскую пушчу.
- Мінск — горад прыгожых жанчын і таннай гарэлкі.
- Раённы агляд спевакоў Гайнаўшчыны ў Кляшчэлях.

# Сяброў пазнаем у бядзе

**Цяпер даехаць проста з Беластока ў Менск немагчыма. Цягнікі ходзяць толькі два дні ў тыдзень, а аўтобусы зусім не ідуць, бо няма каго вазіць. Адзіны пэўны маршрут — праз Варшаву. Такое падарожжа каштуе ўдвая даражэй.**

„Купцы ў страху!", „Паніка на гарадскіх базарах!", „Абароты на Кавалерыйскай упалі на 80%!", „Застой на мяжы!" — б'юць па вачах загалоўкі беластоцкіх газет. 19 студзеня пад Ваяводскай управай у Беластоку прайшла найбольшая ў апошніх гадах дэманстрацыя — паўтары тысячы чалавек пратэставалі супраць абмежавання прытоку турыстаў з-за ўсходняй мяжы.

Агульнапольскі саюз купцоў і работадаўцаў з сядзібай у Беластоку, у скіраваным на рукі віцэ-прэм'ера і міністра ўнутраных спраў пратэсце, напісаў, між іншым: „Няма палітычных, гаспадарчых і іншых зразумелых грамадству прычын на тое, каб так рэзка абмяжоўваць абмен між суседнімі краінамі". Пагражае гэта гаспадарчай дэградацыяй цэлых рэгіёнаў, у якіх, дзякуючы абмену з усходам і ў выніку ініцыятывы самога грамадства было створана многа месцаў працы: у гандлі, прадукцыі, паслугах. З гандлю жылі не адны купцы, але і працаўнікі швейных артэляў, вытворцы мэблі, таксісты, уласнікі прыватных кватэр і працаўнікі гатэляў, ды многа іншых. Таму беластоцкія купцы ў лісце віцэ-прэм'еру патрабавалі „як найхутчэй прыняць меры, каб ліквідаваць шкодныя вынікі новага закона".

— Нас не цікавіць палітыка, — кажа старшыня саюза Збігнеў Якімовіч, — мы не пратэстуем супраць закона, які прыняў яшчэ папярэдні Сейм. Абурае нас безгалоўе ў яго ажыццяўленні і брак якога-колечы ўяўлення, у што гэта можа абярнуцца для нас, грамадзян Польшчы.

— Увялі закон, а толькі потым пачалі пра яго думаць, — кажа Рафал Мадзалеўскі з Беластоцкай гаспадарчай ініцыятывы. — Усё адбылося з дня на дзень. Своечасова не паступіла ніякая інфармацыя пра ўскладненні, не паявіліся нават фармуляры запрашэнняў. А можна ж гэты новы закон, які па сутнасці не вельмі адрозніваецца ад старога, ажыццяўляць па-людску. Пра гэта мы вось хочам размаўляць з міністрам унутраных спраў і адміністрацыі на сустрэчы, на якую ўжо атрымалі запрашэнне.

На адным толькі базары па вуліцы Кавалерыйскай зарэгістраваных 3 тысячы купцоў, а гэта абазначае стольвкі ж малых прадпрыемстваў. „Кур'ер паранны" паведаміў, што на ўсіх беластоцкіх базарах працуе каля 10 тысяч гаспадарчых суб'ектаў, якія не толькі ўтрымліваюць сем'і, але часта даюць працу прадаўцам, пастаўшчыкам. Да таго трэба далічыць страты аптовых складоў і крамаў, асабліва супермаркетаў, дзе грамадзяне Беларусі і Расеі рабілі пакупкі найахвотней. Атрымліваецца, што закрыццё мяжы сапраўды стукне па кішэнях жыхароў горада і рэгіёна, хаця цяжка палічыць, як моцна.

Ад абмежавання гранічнага руху пацярпеў не адзін Беласток. У цэнтры краіны таксама вырасла цэлая гаспадарчая інфраструктура, скіраваная на гандаль з Усходам. Гэта хаця б вядомы кожнаму турысту з усходу варшаўскі стадыён „Дзесяцігоддзя". А ў Лодзінскім ваяводстве ўзніклі вялікія, плошчай у некалькі гектараў, гандлёвыя цэнтры, на якія працавала большая частка тамашняй лёгкай прамысловасці. Тэлебачанне паведаміла, што абарот гэтых цэнтраў у першых днях студзеня зменшыўся на 60%.

* * *

Такая рэстрыкцыя, парадаксальна, прынесла адну непрадбачаную карысць. Выклікала яна ў Польшчы вялікую сімпатыю да ўсходніх суседзяў. Ніколі раней з вуснаў палякаў не можна было пачуць столькі цёплых слоў у адрас беларусаў і расейцаў. Рынак зрабіў тое, чаго не змагла зрабіць на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў афіцыйная прапаганда. Палякі самі пераканаліся, якую карысць дае ім свабоднае супрацоўніцтва з суседзямі і цяпер сапраўды баяцца, што ўсё скончыцца.

**Мікола Ваўранюк**

# Учарашнія вуліцы

У Орлі налічваецца каля дваццаці вуліц, а некаторыя іх назвы з'яўляюцца крыніцай клопатаў і непрыемных сітуацый для жыхароў. Хваля перайменаванняў вуліц і вяртання да старых назваў ужо прайшла, але ў Орлі ўсё засталося па-старому. Аб згаданых клопатах гавораць жахары вуліц з назвамі з мінулай эпохі.

— Жыву на вуліцы, якая паводле шыльдачкі называецца 1-га Мая, але ў карэспандэнцыі, якая прыходзіць на мой адрас, пішацца што я жыву на вуліцы 3-га Мая. Пісьманосец трапляе да мяне па прозвішчу, але я не ведаю, што пісаць у дакументах і бланках, якія час ад часу прыходзіцца мне запаўняць.

— Маладыя і „завалокі" не ведаюць, што тут 24 чэрвеня 1941 года з рук салдат адступаючай Чырвонай Арміі загінула сем нявінных жыхароў Орлі. Пара ўжо вярнуць вуліцы Чырвонай Арміі яе колішнюю назву Пасвентная.

— Мае дзеці жывуць на захадзе Польшчы і прысылаюць лісты на вуліцу Пасвентную. Гэта скандал, што гмінныя ўлады да гэтай пары не вярнулі нашай вуліцы старой назвы і такім чынам падвяргаюць яе жыхароў усялякім напрыемнасцям. Людзі перасталі пісаць нам лісты. Нельга тлумачыцца сціплым бюджэтам.

— Мне ні стары, ні новы лад не перашкаджае. Важна, каб людзям было добра. Справа аднак у тым, што з-за старых назваў маем толькі адны клопаты. Нават паліцыянт, які правяраў мае дакументы, з прэтэнзіяй сказаў: „Panie, to niemożliwe! Jak to, ulica Armii Czerwonej?"

— У нас у Орлі ўсё магчымае. Ва Управе гміны ўсё трымаюцца старой традыцыі. Калі не зайду ў банк ці КРУС у Бельску, заўсёды пытаюць: „To jeszcze ulica Armii Czerwonej jest u was?". А я адказваю, што яшчэ не паспелі змяніць.

* * *

І не зменяць. Калі я асабіста звярнуўся да гміннага сакратара з пытаннем аб перайменаванні вуліц і прапанаваў бясплатна зрабіць новыя шыльдачкі, ён толькі сказаў: „A co, nie podoba się? Po co zmieniać..."

**Міхал Мінцэвіч**

# Новае на граніцы

**Пацішэла ў Беластоку. Замерлі бурлівыя прыгранічныя кантакты гэтай найбольшай усходняй метраполіі Польшчы. Новы закон аб іншаземцах з 27 снежня 1997 года ўвёў немалыя змены ў турыстычным руху.**

Сёння іншаземцы, якія хочуць перасячы мяжу між Беларуссю і Польшчай, павінны мець адпаведны дакумент, а перш за ўсё пасведчанне аб фінансавых сродках на побыт у нашай краіне, — інфармуе нас **Анджэй Гаўкоўскі, дырэктар Аддзела грамадзянскіх спраў Ваяводскай управы ў Беластоку.**

Ад 9 студзеня Ваяводская ўправа (Аддзел грамадзянскіх спраў) пачала прымаць дакументы, патрэбныя дзеля афармлення запрашэння ў Польшчу іншаземца. Пры гэтым неабходна падаць даныя, якія датычацца госця (хто ён, дата і месца нараджэння, адрас), а таксама тыя ж даныя аб запрашаючым. Апрача таго, трэба прадставіць стан маёмасці запрашаючага (банкавы рахунак, пасведчанне аб заробках ці рэнце, пенсіі), каб ведаць, ці дазваляе ён утрымаць запрошаную асобу. Як сцвярджае дырэктар А. Гаўкоўскі, адмоў дагэтуль не было. **Зарэгістраванае запрашэнне** можна атрымаць прыблізна праз тыдзень, мо крыху больш.

Найважнейшы элемент запрашэння: **запрашаючая асоба** (польскі грамадзянін або іншаземец, пражываючы пастаянна ў Польшчы) бярэ на сябе ўсе кошты, звязаныя з прабываннем госця, яго лячэннем ці выдаленнем з тэрыторыі РП.

На дзень нашай размовы з дырэктарам А. Гаўкоўскім (19 студзеня 1998 г.) было ўжо выдадзена некалькі соцень запрашэнняў для сваякоў і знаёмых запрашэнняў. Каб супакоіць сітуацыю, пакуль што выдаецца шмат запрашэнняў.

Новы закон аб іншаземцах гаворыць таксама аб **ваўчэрах для турыстаў**. Могуць яны прыехаць на ваўчэр, але сёння гэты дакумент павінен пацвярджаць, што гатэль ці іншая кватэра забраніраваны і аплачаны, а таксама аплачана і харчаванне.

Што датычыцца **службовых падарожжаў**, дык гэта ў асноўным кантакты між фірмамі. У рамках падпісаных дамоў фірмы пацвярджаюць, што гэта асоба едзе на падставе пячаткі „AB" дзеля службовых кантактаў між фірмамі, тлумачыць дырэктар.

Цяпер становіцца ясна, чаму вярнуліся з граніцы (я чула ў калідоры) нейкага дырэктара з Мінска, які ехаў у нараўскі „Пронар". Не меў ён, кажуць, **пацвярджэння**, якое таксама з'яўляецца пэўным родам запрашэння.

Беластоцкія купцы (не будзем усіх гандлюючых называць гандлярамі) пратэстуюць і пагражаюць, што акупіруюць граніцу. Чуем, што сорак працэнтаў беластачан жыло дзякуючы гандлю, а цяпер крыніца іх заробкаў высахла. Дык мо лепш было б, каб заставалася так, як было, хаця той „турыстычны" рух меў няшмат супольнага з турызмам?!

Я — толькі выканаўца рашэнняў дзяржавы, пераконвае мяне дырэктар А. Гаўкоўскі. На сёння цяжка сказаць, як усё гэта пойдзе. Мо пачнуць ствараца большыя фірмы... Справы гандлю павінны быць урэгуляваны, павінны быць легальныя суполкі, фірмы. У перспектыве ўсё гэта можа пайсці ў карысць.

А што датычыцца падарожжа польскіх грамадзян у Беларусь? Пакуль што ўсе чакаюць інструкцый з Галоўнай камендатуры Паграмахоўы (Straży Granicznej). Гэта адзіная ўстанова, упаўнаважаная да сцвярджэння права на перасячэнне граніцы. З неафіцыйных інфармацый вынікае, што міністэрствы замежных спраў абодвух бакоў вядуць размовы, у выніку якіх павінна быць падпісана новая дамова. Можа ў выніку ке, як бы пацішае дырэктар, зусім не будзе віз, як з Германіяй, Літвой, Украінай...

Каб упэўніцца, як цяпер выглядае падарожжа **грамадзян РП** за ўсходнюю граніцу, мы звярнуліся яшчэ ў Падляшскае аддзяленне Паграмахоўы, дзе паінфармавалі нас, што ніякіх змен у гэтым, пакуль што, не было і абавязвае міжнародная дамова з 1979 года аб бязвізавых падарожжах грамадзян. Новы закон з 27 снежня 1997 года, які ўводзіць патрэбу пацвярджэння дакумента і фінансавых сродкаў, неабходных для прабывання на тэрыторыі другой краіны, — датычыць толькі іншаземцаў.

Неафіцыйна вядома аднак, што беларускія пагранічнікі вяртаюць некаторых польскіх турыстаў з граніцы, патрабуючы пацвярджэння ў форме рахунку ці ў нейкай іншай форме, што былі аплачаны паслугі, пералічаныя ў ваўчэры. Беларускі бок не інфармуе, аднак, пра свае дзеянні.

Спадзяемся, што сітуацыя, якая вынікла на граніцы, выясніцца як мага хутчэй, пра што адразу паінфармуем нашых чытачоў.

**Ада Чачуга**

# І ў Чаромсе пацярпелі

З пачаткам г.г., калі пачаў абавязваць новы закон аб іншаземцах (асабліва датычыць ён грамадзян Расеі і Беларусі), на пагранічных пераходных пунктах пачалася калатнеча. Ніхто дакладна не ведаў як тут быць — ні пагранічная ахова (вайскоўцы), ні мытнікі. Асабліва, дзе запісваць перавезеную колькасць алкагольных напояў і цыгарэтаў. Да гэтага часу чаромхаўскія вайскоўцы адзначалі гэта ў пашпартах.

Некаторыя спрабавалі супрацівіцца. Ды што ты падуеш супраць ветру? Закон гэта закон!

Апусцеў чаромхаўскі рынычак. Высахла крыніца танных алкагольных напояў і цыгарэтаў. Не відаць таксама хістаючыхся мужыкоў. Чаромхаўскія жанчыны, склаўшы рукі, дзякавалі Богу, што выручыў іх з няволі „савецкай заразы" (гарэлкі, значыцца). Скончылася прыбытак прыватным крамарам. І ў Чаромсе яны пацярпелі крах. Нядаўна давялося пагаварыць мне з бельскім прадаўцом, які ў кожную пятніцу і суботу прыязджаў на машыне з прадуктовымі таварамі.

— Што гэта ў Чаромсе чаўпецца? Тавараў усякага віду ўдоваль, а ніхто не хоча купляць?

Тое ж можна пачуць і ў мясцовых крамах.

Як бачым, у Чаромсе правал пацярпелі не толькі крамары. Абарваўся бізнес і насельніцтву прыгранічных вёсак. Не кожны ў сяле заплаціць 10 долараў за ваўчэр і прывезці адзін літровы бутэль гарэлкі. Гэта не па думцы спадара Бальцаровіча...

**Уладзімір Сідарук**

# Абаранак Пілсудскага

[1 ☞ працяг]

паступленне да нас рэкламаў. І мы, на жаль, мусім прыцягаць гледачоў. Я ўсё-такі хацеў, — і гаварыў ужо пра гэта нашым калегам і ва універсітэтах, і ў пасольстве, — каб апрача курсаў стандартных еўрапейскіх моў праводзіць на нашай антэне курс і беларускай мовы. Калі б нам прыйшлося рабіць гэта самім — дык не: няма грошай, але калі б атрымалі матэрыялы звонку, тады рэшту самі сфінансуем і пусцім у ход.

***— Гэтая задума нагадвае мне завоз вугалю ў капальню.***

— Не згаджаюся з гэтым, бо ўзровень некаторых перадач абязвольвае, калі чалавеку перад камерай здаецца, што ён гаворыць на беларускай мове; я выхаваны ў Супраслі і гэтую мову ўспрымаю і разумею, хаця на ёй не гавару. І думаю, што і палякам такія лекцыі прынеслі б карысць хаця б з увагі на пошукі падабенства на памежжы і яны з ахвотаю глядзелі б такія перадачы.

***— Многія беларусы адмовіліся ад навучання роднай мове ў школах, а з тэлевізара пачнуць яны вучыцца?***

— Думаю, што прыцягнула б гэта тых, якія маюць нацыянальную свядомасць, хаця б дзеля самаправеркі. І былі б гэта шанц для тае моладзі, якая не мела да згаданых школ доступу.

***— І многа гледачоў удалося б прыцягнуць да гэтай праграмы?***

— Гэта пытанне для разгляду — многае будзе залежаць ад якасці прапанаванага матэрыялу.

***— Яшчэ многа людзей на Беласточчыне карыстаецца беларускай мовай і менавіта Беластоцкі тэлецэнтр, ён жа рэгіянальны, павінен у нейкай ступені задаволіць іх патрэбу роднай мовы.***

— Гэта ўсё праўда. А як выглядае ваша чытальніцтва? З другога боку — у Беларусі падобная сітуацыя. Нядаўна я быў у мястэчку Шчучын на Гродзеншчыне, дзе, паводле тамашняга губернатара, шэсцьдзесят працэнтаў насельніцтва прызнаецца да польскіх каранёў, аднак яны і не гавораць па-польску, і не чытаюць па-польску! Дарэчы, тэлебачанне не з'яўляецца панацэяй на ўсе праблемы. Мы дагэтуль рабілі паўтары гадзіны ўласнай праграмы, цяпер робім крыху больш, думаем дайсці да шасці гадзін у дзень і нам спатрэбяцца нейкія два-тры гады, каб завяршыць гэты працэс.

***— Пра кшталт цяперашняй рамавай праграмы вырашыў пэўна нейкі грэміум?***

— Не, кшталт нашай праграмы пілатажны. Усе новыя праграмные прапановы, якія ў нас узнікаюць, я лічу толькі спробамі і іх далейшы лёс абумовіць іхняя вартасць і ацэнка іх нашымі гледачамі: ці гледачы іх хочуць.

***— Якім чынам будзеце збіраць тыя ацэнкі?***

— Дабіваемся ўключэння нашага асяродка ў агульнапольскую сістэму апытання гледачоў, аднак гэта замарудзіцца, бо не маем непасрэднай сувязі з цэнтрам. А пакуль мы будзем асноўвацца на бюлетэнях рэпрэзентатыўна падабранай групы гледачоў і на тэлефонных адгалосках другіх гледачоў.

***— У такім выпадку гледачы, якім я тут намагаюся быць заступнікам, апынуцца ў пройгрышнай пазіцыі...***

— Чаму так?

***— Бо многія з іх жывуць у такіх мясцовасцях, дзе няма тэлефонаў і іх голас у такіх апытаннях адсутнічаў бы.***

— Я гэта разумею, і таму я засцярог свой уплыў на ўвод у нас метадаў апытання дзеля таго, каб яны ўлічвалі спецыфіку нашага рэгіёна.

***— І калі б такое апытанне выявіла патрэбу перадач на беларускай мове і іх вартасць не падлягала б сумненню, тады — у эфір?***

— Няма ніякіх іншых абмежаванняў: абы варта толькі было прызначыць на гэта час і сродкі. Мяне тут зрабілі ўжо працаўнікам нацыянальных меншасцей і перадач на іх мовах — зусім несправядліва. Вось мы падыходзім да прымянення стэрэафаніі дзеля таго, між іншым, каб стварыць магчымасць двухмоўнага прыёму: каб сам глядач выбарам балансу вырашаў, на якой мове хоча ён слухаць перадачу; дзеля гэтага падложым яшчэ голас беларускамоўнага лектара. Я нічога такога не зрабіў, за што можна было б мяне абвінавачваць у варожасці да нацыянальных меншасцей.

***— Аднак калі вы будзеце кіравацца галоўным чынам камерцыйнымі крытэрыямі пры падборцы рэпертуару, тады са згаданага абаранка Пілсудскага зробіцца праспак.***

— У якім сэнсе?

***— Усё уніфікуецца...***

— Будзем целяпнямі, калі да такога дапусцім. Мне вось многія прапановы сцэнарыяў для нашых праграм не падабаюцца, бо яны з'яўляюцца водгаласам таго, што ўжо недзе было. Марыцца мне, каб нашы прапановы мелі наш рэгіянальны адбітак, бо яны лепей успрымаюцца і ў нас, і звонку. Можам уводзіць і прапановы камерцыйнага, універсальнага характару, бо кожны наш выхад на цэнтральную антэну пракладаецца на сродкі: калі большая аглядальнасць, тады і больш грошай на ўласную прадукцыю. А выкарыстанне гэтага шансу залежыць і ад нас, і ад тых, якія з намі будуць супрацоўнічаць. Дзеля гэтага і намагаемся прыцягнуць да супрацоўніцтва як мага больш цікавых людзей, бо цікавыя людзі прыцягваюць гледачоў — так робіцца ва ўсім свеце.

***— Гэта агульнавядомыя праўды, а я ж усё-такі хачу пра перадачы на беларускай мове...***

— Вы ўвесь час ставіце мяне пад удар; я дагэтуль вёў сябе памяркоўна, але мяне ўжо гэта пачынае нерваваць. Адвернем сітуацыю: пакажыце мне такі казус, калі нехта запрапанаваў нешта вартаснае, а я гэта адкінуў! Гэта не толькі ад вас я чую пра дыскрымінацыю, бо і, напрыклад, з боку касцёлаў. А ў мяне на гэта ўсё адзін адказ: ніякіх рэдакцыяў! Не будзе такіх сітуацыяў, калі нехта выкажа нейкае пажаданне, а я яму адразу падару дзялянку часу. Але, калі ёсць добрыя прапановы, а беларускае, вялікае і актыўнае, асяроддзе мусіць атрымаць дамінанту ў нацыянальным сэнсе, але не адміністрацыйным шляхам — толькі шляхам стварэння вартасных праграмаў.

***— Я гутарыў з многімі старэйшымі людзьмі. Яны не хочуць аглядаць большасці таго, што ім цяпер прапануе тэлебачанне, аднак хацелі б мець такое невялікае акенца для сябе.***

— Значыць, я павінен даць яшчэ адно акенца, нягледзячы на тое, што гэта будзе, абы толькі па-беларуску? Вы хочаце час, а я дамагаюся праграмных прапаноў. Бо добрая праграма, якая зацікавіць гледача, можа ісці і па-беларуску з польскімі надпісамі.

***— Ці іншыя тэлецэнтры ў краіне робяць перадачы для меншасцей?***

— Ёсць спробы, але мала. Ды што тут і гаварыць, калі наша слабенькая праграма „Самі пра сябе" з'яўляецца доказам дрэннага выкарыстання часу. Яшчэ ваша частка выглядае найлепей, але іншым меншасцям я выразна сказаў, што калі якая меншасць не будзе мела чаго паказаць, то тады тая меншасць, якая мае што паказаць, атрымае іх цэлы час. Не будзе так, што не маеш чаго сказаць, але час маеш і рабі з ім што хочаш... Вось і міжнародную ўзнагароду за перадачу „Самі пра сябе" атрымалі мы за тое, што многіх задзівіла паказаная там разнастайнасць.

***— Дзякую за размову.***

# Пасляваенная апазіцыя на Беларусі

Савецкая літаратура, фільм, мастацтва дзесяткамі гадоў даказвалі як ахвярна беларусы змагаліся падчас вайны „за родину, за Сталина", а пасля вайны добраахвотна стварылі калгасы і падымалі краіну з папялішчаў. Час ад часу ўспаміналася пра злачынцаў, калабарацыяністаў, кулацкіх нашчадкаў, якія бязлітасна крыўдзілі свой народ, служачы нямецкім акупантам. Заўсёды аднак дасягала іх рука савецкай справядлівасці. Чырвоныя партызаны, лясныя чэкісты, змагары за камунізм і народнае шчасце былі там, дзе патрабавала іх „родина".

Пра апазіцыю пасля вайны ўспаміналася зрэдку — нават падчас навуковых канферэнцый. Дарэчы, была яна вельмі слабая. Некаторыя групы падпольшчыкаў стваралі нават самі энкавэдзісты з мэтай прыцягнуць патэнцыяльных непрыхільнікаў савецкай улады, а пасля лавіць іх і ссылаць у сібірскія канцлагеры. Пажылыя грамадзяне ведалі, што ў савецкіх рэаліях ніякая канспірацыя немагчымая, але моладзь, а асабліва тыя падлеткі, якіх у нейкі спосаб закранула дзейнасць Саюза беларускай моладзі, думалі, што можна прынамсі спяваць беларускія патрыятычныя песні, весці патрыятычную адукацыю сярод калегаў. Ліцэісты і студэнты менавіта ў 1945-1947 гадах стварылі шмат нефармальных груп з мэтай супрацьдзеяння саветызацыі краіны.

Найбольш шырокую дзейнасць паспела разгарнуць група, якая ўзнікла ў Слоніме вясной 1946 г. Яе сябры сваю арганізацыю назвалі „Чайкай" і неўзабаве стварылі групу падпольшчыкаў з ліку слухачоў Баранавіцкага педагагічнага інстытута. Прабавалі таксама пашырыць дзейнасць на моладзь сярэдніх школ у Брэсце. Імкнуліся стварыць альтэрнатыўную для сталінскай сістэму выхавання маладых людзей. Восенню 1946 г. нефармальныя групы ўзніклі яшчэ ў Жыровіцкім тэхнікуме сельскай гаспадаркі і Ганцавіцкім педагагічным ліцэі. Праўдападобна ўсе гэтыя групы не паспелі нават распачаць якой-небудзь дзейнасці. У чэрвені 1947 г. амаль усе члены ўспомненых падпольных арганізацый былі арыштаваны і пастаўлены перад ваеннымі трыбуналамі ў Мінску і Баранавічах. Ставіліся ім закіды падрыхтоўкі да тэрарыстычнай дзейнасці, вядзення антысавецкай і нацыяналістычнай прапаганды. 37 маладых людзей было прысуджаных ад 8 да 20 гадоў зняволення.

Падпольная група, якая назвалася Саюзам беларускіх патрыётаў, узнікла таксама на пачатку 1946 г. у Глыбоцкім педагагічным ліцэі. Арганізацыя паспела яшчэ пашырыць сваю дзейнасць на ліцэістаў у суседнім мястэчку Паставы. Як і слонімскія канспіратары, глыбоцкія хацелі весці патрыятычнае выхаванне грамадства. У лютым 1947 г. усе яны — 33 асобы — былі арыштаваны. У чэрвені ваенны трыбунал прысудзіў ліцэістаў ад 5 да 25 гадоў зняволення. У кастрычніку судзілі таксама нейкіх канспіратараў з арганізацыі „Свабодная Беларусь", што дзейнічала ў ваколіцы Маладзечна.

Папраўдзе, аднак, невядома ў чым праяўлялася сапраўдная патрыятычная дзейнасць пачатая маладымі людзьмі, а дзе пачыналіся энкавэдзіцкія правакацыі. Сапраўднымі былі толькі ваенныя трыбуналы і шматгадовае зняволенне найбольш актыўных і адукаваных маладых беларусаў.

**Яўген Мірановіч**

# Нашы карані

**CXIV. Халопская вера**

Насуперак няспыннай барацьбе праваслаўных супраць уціску і праследаванняў іх становішча і праваслаўнае Царквы з кожным годам пагаршалася, колькасць праваслаўных змяншалася, а на ўсіх беларускіх землях была дазволена дзейнасць адной Магілёўскай праваслаўнай епархіі. На ранейшых праваслаўных кафедрах Полацка-Віцебскай, Смаленскай, Пінска-Тураўскай, Уладзімірска-Берасцейскай, Холмска-Бельскай і іншых, а таксама на мітраполічай наваградскай з волі каралёў сядзелі уніяцкія біскупы, толькі на Кіеўшчыне іх не было, бо там абаронцамі праваслаўя былі запарожскія казакі, а іх — уніяцкія біскупы і каталіцкія ксяндзы баяліся як агню. Уніяцкія мітрапаліты захапілі таксама спрадвечна праваслаўныя саборы: Барыса-Глебскі ў Навагрудку, Успенскія ў Вільні і Менску і іх лічылі сваімі кафедрамі. Уніяцкі Касцёл на беларускіх землях складаўся з каля тысячы храмаў, у тым у Падляшскім дэканаце было тады 15 уніяцкіх прыходаў, а на Гарадзеншчыне было іх аж 40, з таго каля 20 на Беласточчыне, пераважна на Дуброўшчыне, Навадворшчыне, Аўгустоўшчыне і Янаўшчыне. І уніяцкія мітрапаліты, і біскупы, і ксяндзы пераважна мала клапаціліся пра душпастырскую працу ды дабро сваіх святыняў, а найбольш дбалі пра навяртанне ва унію праваслаўных ды пра свае матэрыяльнае багацце. Сваіх манастыроў, як і храмаў, унія амаль не будавала: забірала і прысабечвала праваслаўныя. Уніяцкія манастыры хутка запаланілі каталіцкія манахі, перш за ўсё езуіты, яны навязвалі уніяцкім законнікам лацінскі абрад, лацінскую мову ў багаслужэннях, польскую — у штодзённым жыцці, таксама польскія звычаі.

Зрэшты, унія вольнымі і нявольнымі яе вызнаўцамі ўспрымалася не надта прыхільна, яе лічылі верай штучнай, няпоўнавартаснай, прастацкай, а нават „халопскай". Праваслаўная шляхта, мяшчанства, не кажучы ўжо пра магнатаў, калі пакідалі сваю бацькоўскую праваслаўную веру, то ніколі не ішлі ва унію, але пераходзілі адразу ў каталіцтва. І сярод уніятаў адны імкнуліся ва ўсім злучыць унію з каталіцызмам, а іншыя — з праваслаўем. Гэтыя памкненні да распаду занепакоілі рымскую курыю, і яна ў 1720 годзе склікала ў Замосце уніяцкі сабор. На ім папскі нунцый (упаўнаважаны) загадаў уніяцкім іерархам і духавенству цалкам выкараніць з багаслужбы, абрадаў, кніг усё, што магло чым-небудзь нагадваць праваслаўе, потым было загадана маліцца, спяваць рэлігійныя песні, размаўляць з духавенствам толькі па-польску, а духавенству — паводзіць сябе і нават апранацца так, як каталіцкае духавенства.

Аднак і гэта не ратавала уніяцкі Касцёл ад пагарды як з боку праваслаўнай Царквы, так і каталіцкага Касцёла. Хоць семінарыстаў і каталіцкіх, і уніяцкіх, часцей за ўсё, вучылі пад адным дахам, але ва уніяцкія класы кіравалі занядбаную, меней здольную моладзь, вучылі яе горшыя настаўнікі, мела яна цяжэйшыя ўмовы жыцця, а пасля семінарыі ішла служыць у глухія мясціны, у бедныя, занядбаныя храмы, якія шляхта і каталіцкае духавенства пагардліва называла „шопамі", дзе — як пісалі інспектары-візітатары — праз дзіравую саламяную страху відаць было зоркі, а пад падрубамі лазілі свінні. У такім гаротным стане была унія, і няма чаго дзівавацца, што яна не карысталася ў людзей павагай.

**Мікола Гайдук**

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 457

Рэдактар: Сакрат ЯНОВІЧ

# Мастацкі пачатак „адкрытасці" ў крытыцы

**Людміла ЗАРЭМБА**, Мінск

Што ж азначае сама назва кнігі Яна Чыквіна *Далёкія і блізкія. Беларускія пісьменнікі замежжа(?).*

Здавалася б, прамыя і канкрэтныя адказы на гэтыя запыты можна атрымаць ужо ў аўтарскай *Прадмове*: *...у лёсе творцаў беларускай эміграцыі і „белавежцаў" мне выразна праглядае тыпалогія жыццёвых абставін. I адны, і другія, апынуўшыся за межамі Беларусі, без надзеі быць пачутымі, засталіся верныя роднаму слову (...) Доўгі час замежная беларуская літаратура — з цэнтрам у Нью-Йорку і з цэнтрам у Беластоку — (...) была нязнанай „дома" (...). У шырокім плане кніга „Далёкія і блізкія" — гэта спроба спасціжэння менавіта часткі цэлага (...) Асноўнай мэтай бачылася найперш асэнсаванне творчай індывідуальнасці тых майстроў прыгожага пісьменства, хто сваімі творамі, асаджанымі ў агульнаеўрапейскім літаратурным, культурным і філасофскім кантэксце, выразна выказвае сваё адметнае слова.*

Кіруючыся гэтым меркаваннем, мы павінны зборнік разглядаць як шэраг артыкулаў-персаналій пра творчую індывідуальнасць пэўных мастакоў слова, з іх цэнтрам у Нью-Йорку (*далёкія*) і ў Беластоку (*блізкія*), а Ларысу Геніюш — асобна як *замежжа* ў межах.

Зразумела, што лірыка непараўнальнага, як называе яго даследчык, Масея Сяднёва ўяўляе сабой у такім плане надзвычай удзячны матэрыял. Зусім слушна вызначае ў ёй галоўную мастацка-псіхалагічную рысу, дамінанту, якая, дарэчы нагадаць тут, уласцівая і ўвогуле творчасці Сяднёва. Гэта імкненне *бараніць, ахоўваць сваю паэзію, сваю музу — у сябе, праз сябе і — для сябе; засланяцца прыгожым* (цытуючы Сяднёва); *Высоўванне на першы план чалавека, які ўслухоўваецца ў сябе і дамагаецца самавыяўлення (...) Каб перадаць індывідуальную самасвядомасць лірычнага „я"*. Нарастанне і развіццё гэтай якасці паслядоўна прасочваецца ад 1933-га да *Масеевай кнігі* 1994-га года. У першапачатковым *паэтычным самнамбулізме* студэнт-паэт яшчэ не мог *адважыцца трымаць сябе на аскетычнай адлегласці ад літаратурных генералаў і асмеліцца шчыра выявіць самабытнасць (...) у поўную меру*, — адзначае Ян Чыквін.

Фарміраванне зусім *іншага* позняга Сяднёва даследчык лічыць вынікам засваення ідэйна-эстэтычнай сутнасці еўрапейскага мастацтва і філасофіі. Тады вершы набываюць якасць *індывідуальнай біяграфіі неардынарнага чалавека; вельмі асабістай аўтабіяграфіі душы паэта, як прыватны лірычны дзённік*. У іх адлюстраваны *экзістэнцыянальны неспакой*. Даследчык удала вылучае пластычныя змены лірычнага *я* паэта, які пераўвасабляецца *ў свядомага, вольнага і інтэлігентнага пісьменніка з шырока адкрытымі поглядамі на свет, людзей, мастацтва, культуру, з глыбока абуджанымі агульначалавечымі духоўнымі патрэбамі*. Замест рэальна-побытавых малюнкаў у сюжэтных вершах паэт цяпер аддае перавагу ўскладнёнаму свету ўспамінаў або *глыбіннай мудрасці біблейска-іранічных вершаў*. Дыялектыцы змен светаадчуванняў падпарадкоўваецца і эстэтычная форма: ад сілаба-тонікі да верлібра ці то злірызаванай, паэтычнай прозы.

Артыкул пра творчую індывідуальнасць лірыкі М. Сяднёва атрымаўся лагічна стройны, мастацкі матэрыял у ім строга скіраваны і выдатна *працуе* ў доказ асноўнага аўтарскага тэзіса пра тое, што паэтычны шлях Сяднёва — гэта няўхільнае развіццё і ўзбагачэнне духоўнага свету, узыходжанне да ўсё больш высокіх ступеняў самараскрыцця ў вершах. Аднак як хацелася б тут дзеля аб'ектыўнасці зазначыць, што *Масеева кніга*, якую даследчык ставіць вельмі высока, галоўным чынам з-за цыкла *Біблейска-іранічных вершаў* (як выдатнай інтэлектуальна-экзістэнцыянальнай лірыкі), не зводзіцца і не вычэрпваецца гэтым раздзелам.

Выключна станоўчыя ўражанні пакідае і разгляд *творчай біяграфіі* Наталлі Арсенневай. Тут, як і ў папярэднім выпадку, палітыка і ўсе грамадскія падзеі аказваюцца ў полі зроку даследчыка ў той жа меры, у якой яны сапраўды мелі ўплыў на галоўны прадмет вывучэння — вершы. I гэта зусім у дадзеным выпадку слушна, хаця нашага шырокага *палітызаванага* чытача могуць непрыемна ўразіць такія, напрыклад, радкі: *У „нямецкі" перыяд [1941-1944 г.г. — Л. З.] талент Наталлі Арсенневай, сапраўды, расцвітае буйнай разнаколернай кветкаю. На працягу трох гадоў паэтэсай было створана каля дзевяноста новых лірычных вершаў (яны і складаюць зборнік „Сягоньня"), былі напісаны арыгінальныя лібрэта для трох беларускіх опер („Лясное возера", „Усяслаў Чарадзей", „З выраю") ды зроблена шмат перакладаў як паэтычных твораў Гётэ, Гаўптмана, Кляйста, так і тэкстаў лібрэта опер „Вяселле Фігара" і „Чарадзейная флейта" Моцарта, „Зачараваны стралец" Вебера ды „Гензель і Грэтэль" Гумпэрдынка (...). Калі яна ў той час і хацела служыць некаму сваёй паэтычнай працаю, дык толькі беларускаму народу і Айчыне.*

Але вернемся ўсё ж да лірыкі. Яе аналіз зроблены, лічу, дасканала. Аўтар трапна выдзяляе надзвычай арыгінальныя рысы пясняркі, супастаўляючы іх з агульным фонам беларускай паэзіі. Мы чытаем: *Пачынаючы з 1922 года Наталля Арсеннева ўсё шчыльней замыкаецца ў сваіх чыста індывідуальных настроях і перажываннях. Яна стварае свой уласны, прыгожы, чысты, вытанчаны свет лірычнай уявы — вельмі ж непадобны да паэтычнага свету ў дваццатых-трыццатых гадах, напрыклад, Максіма Танка, Міхася Машары, Уладзіміра Жылкі. Творчай пазіцыяй Наталлі Арсенневай таго часу стаецца адстароненае назіранне і эстэтызацыя жыццёвых з'яў і фактаў.* Шчырае наша захапленне выклікае і тое, як Чыквін піша пра лірычную гераіню Арсенневай — вобраз новы ў нацыянальнай паэзіі — *светла-лірычнай, жаноцкай жанчыны* або яе высокае ўменне апяваць прыроду, адчуванне роднасці сваёй з магноліяй, з восенню. Тут больш, чым у іншых артыкулах, крытык цытуе ўзорныя вершы. Відаць, асаблівая ўлюбёнасць у сапраўды адмысловую паэзію Арсенневай дазволіла стварыць артыкул дасканалы. Этапы ў творчасці паэтэсы апісаны так, што не ўзнікае ні кроплі сумнення ў лагічнай (а не біяграфічнай, як часта бывае) неабходнасці іх абазначэння. Сам аўтарскі тэкст набывае эмацыянальную прыўзнятасць: *Такіх „ціхіх" паэтаў, як Наталля Арсеннева, якая — стаўшы эмігранткай — не мела таксама і „куды сказаць", новая эпоха пакідала без належнай увагі. „Я кужалем сівым няўзнак датку мой верш", — пісала яна ў вершы „Гадзіннік", прадчуваючы, што яе час і час эпохі „дыхаюць не ў тахт".*

Хацелася б звярнуць увагу і на такую *колькасна-якасную* адзнаку зборніка. На 195-ці яго старонках змешчаны 12 артыкулаў плюс *Прадмова*. Відаць, тэмы іх вымагалі асаблівай увагі крытыка. Такі аб'ём — да трыццаці старонак — маюць у найбольшай ступені класічна-акадэмічныя разважанні пра паэзію Сяднёва і даследаванне лірыкі Янкі Юхнаўца — найскладанай з'явы літаратуры нашага часу. Выклікае захапленне тая чалавечая стрыманасць і навуковая тактоўнасць, з якімі Чыквін разглядае іх. А матэрыял як проста вымагае эмоцый, мастацка-вобразнага асэнсавання, і кожным радком свайго тэксту аўтар нібы знарок засяроджвае на гэтым увагу чытача, нібы заклікае да гэтага. Перад намі партрэт Янкі Юхнаўца, паэта-эмігранта, якога *калегі* ў замежным друку завуць *дзікім*, мабыць з-за непадабенства да іх, адсутнасці цывілізаванай стандартнасці. Ідэйную аснову сваіх твораў ён вызначыў сам як асацыяізм: *Гэта асацыяцыя ўсіх літаратурных метадаў, школ і стыляў, якія існавалі дагэтуль (...) Я вучуся ў самога сябе*. Ён сам утварае лексіку беларускай мовы па ўзору той, што вывез некалі ў душы сваёй з Бацькаўшчыны. I гэтай мовай (беларускай у аснове сваёй і па духу, але ў нейкай ступені і новай эсперанта) ён стварае вершы, сапраўдную паэзію! Паэзію, таму што лірычны герой яе — чалавек з плоці і крыві, які адчувае *адзіноту-самоту асобы ў свеце, трывогу-пакуту быцця*, абагульненыя мастацкія вобразы ветру, зямлі, сонца, жыцця — скразныя ў яго творчасці, улюбёнасць у прыродны свет набывае якасці *першабытнага смакавання цуду жыцця*. Даследчык слушна адзначае найважнейшыя рысы светаадчування гэтай асобы: у вершах няма рэалій той краіны, дзе жыве паэт, якой-небудзь канкрэтнай суаднесенасці з яе прыродаю, вельмі ж абмежаваныя і тапаніміка, уласныя імёны, што ўжываюцца на далёкай Бацькаўшчыне, але часта выкарыстоўваюцца словы *мая Айчына, Беларусь*. Што ж гэта за чалавек, паэт, які не бывае нават у думках на сваёй роднай зямлі-зямліцы, а толькі адцягнена трызніць аб ёй як аб недасягальным ідэале? Іншыя краіны так і засталіся для яго адчужанымі, ён жыхар усёй планеты ўвогуле, з яе сонцам, ветрам, жыццём-біясферай. Дзіўны феномен, варты ўвасаблення ў навуковай фантастыцы альбо пяром Алеся Адамовіча (успомнім яго *Апошнюю пастараль*). Цяпер вось яе вялікасць Сучаснасць утварыла такую духоўную з'яву, і Ян Чыквін, разважаючы ў якіх колах быцця шукаць яе карані, наіболып выразна звязаў іх з філасофіяй (гэта значыць, у пэўным сэнсе з разумова-эмацыянальнай мадэллю, структурай, жыццём у абстрагаваным, *знятым* стане). I тут, акрамя апорных імёнаў Гегеля і Сартра (шлях зацікаўленасці паэта — ад першага да другога), налічыў яшчэ 6 *ізмаў* і *логій* з аж 17 імёнамі.

Вышэй ужо адзначалася, што як вынік дасканала тонкага пранікнення даследчыка ў духоўны свет паэта-творцы, ад артыкула да наступнага змяняецца тон яго выказванняў, напрыклад, пра Арсенневу і Сяднёва. А вось як інтэлектуальна-ўскладнёна гаворыць крытык пра Юхнаўца: *Экзістэнцыянальныя неспакоі (...) лагодзяцца і „размываюцца", між іншым, па-шапэнгаўэраўску разуметай вітальнасцю, воляю да жыцця, па-бергсанаўску — інстынктыўным elan vital, а таксама — дар уласцівы толькі чалавеку — зачараваннем метафізікай быцця і метагісторыяй прыроды.*

Калі ж звярнуцца да апошняй групы артыкулаў пра *блізкае* замежжа (успомнім тут, мы кіруемся палажэннямі *Прадмовы*), то цікава з іх вылучыць тры: *Самотнік у свеце рэчаў*, *Да вытокаў роднага*, *I дзверы зрабіліся сцяной (Катастрафізм у лірыцы Надзеі Артымовіч)*. Яны напісаны нібыта на адным дыханні, усхвалявана і з любоўю; кожны акумулюе вялікую ўласначалавечую прыналежнасць да лёсаў паэтаў.

Як мне здаецца, *Далёкія і блізкія* толькі фармальна можна звесці да паслядоўнага пошуку *ў кожным выпадку сваёй* творчай непаўторнасці. Бо ўзнікае патрэба нейкага абагульнення, супастаўлення ці то *далёкіх* з *блізкімі*, ці то аднаго пакалення з другім і да т.п. Само сабою паўстае пытанне, а ці не прыхавана якой заканамернасці, і якой менавіта, у тым парадку, па якім нью-йоркскую паэтычную групу завяршае творчасць у пэўным сэнсе *касмапаліта* Янкі Юхнаўца? А пасля яе — размова аб прозе, атрымаўшая назву *Нявычарпаная тэма*, дзе зусім прама сцвярджаецца, што ўсё ў празаічных творах зводзіцца да адной тэмы — успамінаў пра Радзіму. Можна меркаваць, што пэўна ж ёсць нейкі лагічны (а можа і больш глыбокі, мастацкі?) сэнс у тым, што свой роспавед пра *блізкіх* суайчыннікаў Чывкін пачынае з *незразуметага* ў яго верлібрах Яшы Бурша і завяршае артыкулам з вельмі змястоўным найменнем *Сямейны партрэт крынкаўцаў з аўтарам на першым плане.*

Каб вырашыць такія пытанні, мы павінны падысці да разгляду гэтай кнігі зусім паіншаму, не як шэрагу артыкулаў, аб'яднаных толькі даследаваннем творчасці пісьменнікаў, абраных па месцы іх жыхарства, а як пэўны цыкл прац, з'яднаных тэматычна, ідэйна і ў мастацкім плане.

Прыхільнік *адкрытых* твораў і верлібраў, арыгінальны, самабытны літаратар, Ян Чыквін стварыў гэтую крытычную кніжку па ўзоры паэтыкі прыгожага пісьменства, як непадзельнае адзінства, комплекс твораў, у якім пісьменнікі сталіся крышачку персанажамі. Даследчык — заўсёды апалагет свайго героя-паэта. Нават творчасць Юхнаўца і Бурша, як і ўсіх іншых *дзеючых асоб* развіваецца абавязкова па ўзыходзячай лініі, да ўсё больш высокай ступені раскрыцця існасці творцы ў яго вершах паралельна з развіццём самой яго асобы за кошт спасціжэння высокага заходнееўрапейскага мастацтва ды філасофіі. (...)

Але вернемся да разгляду аўтабіяграфічнай прозы таксама *блізкага* Сакрата Яновіча. Яна вабіла ў час свайго выхаду ў свет і праз пэўную колькасць гадоў перачытваецца з няменшай цікавасцю ў новай гістарычнай падсветцы, слушна адзначае даследчык. I зразумела чаму: у ёй ёсць зацікаўленасць жыццём асяроддзя, паветрам якім дыхае пісьменнік, дзе ён спявае і плача, разважае, дзе яму, чалавеку, цікавы іншы чалавек. Калі Ян Чыквін піша пра гэту прозу, то на старонках кнігі з'яўляецца слова, якім не даводзілася яму карыстацца ў папярэдніх артыкулах, — *пратэст* з пазітыўным адценнем. Тут можна гаварыць пра канцэптуальнасць і тэндэнцыйнасць, сапраўды так.

Здаецца, якраз з мэтай пераканаць нас у гэтым пісьменнік перад заключным, пра Яновіча, артыкулам змясціў побач адзін за адным тры, на якія мы ўжо звярнулі раней увагу: *Самотнік у свеце рэчаў*, *Да вытокаў роднага*, *I дзверы зрабіліся сцяной (Катастрафізм у лірыцы Надзеі Артымовіч)*. У іх *трагічнае* адбываецца з паэтамі тое (яны сапраўды перажываюць і шчыра перадаюць у сваіх радках падзеі менавіта ў такой абмалёўцы), што адзін з іх пераехаў з вёскі ў горад, другі, пасля смерці маці, наадварот, жыве ў вёсцы, а Надзея Артымовіч — аж сем гадоў вучылася і працавала ў Варшаве, хаця нарадзілася ў Бельску. Гэта ж падумаць страшна, чым стала б іх творчасць, каб з імі сапраўды што-небудзь здарылася з таго, што давялося перажыць паэтам-эмігрантам. Але ж, як звычайна ў суладдзі з танальнасцю іх паэзіі, Чыквін называе лёс У. Гайдука *скрыжалямі*, а яму дае найменне *паэта-самотніка*; гаворыць пра расколаты свет М. Шаховіча і, як пра *замкнёную ў клетцы Варшавы* — Надзею Артымовіч. Чаму ж так здарылася, з якой прычыны склалася ў іх яўна неадэкватная рэакцыя на падзеі? Відаць жа, справа не ў канкрэтным пераездзе, а ў тым, што паэт адчувае дыскамфорт, псіхалагічную неўладкаванасць свайго існавання ў гэтым быцці, у гэтым грамадскім акружэнні.

Па сутнасці Ян Чыквін ставіць і паступова, на мностве прыкладаў, фактаў, з вялікай далікатнасцю да долі пісьменнікаў-сучаснікаў нашага замежжа вырашае найбалючую праблему: *Пісьменнік і Бацькаўшчына.*

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Станіслаў ВАЛОДЗЬКА

## Загадка

Ноччу, глянуўшы у неба,
Светлячок усклікнуў зноў:
— Вось узняцца ў неба мне б!
Там жа столькі светлячкоў!
(Зоркі)

# Шчодры вечар


*Анёл — Наталька Кучынская.*

Вучні кожнай школы ведаюць цяпер, што 21 сакавіка — у першы дзень вясны — ніхто і ніщто не можа прымусіць іх сядзець на ўроках, а 1 красавіка — на прымаапрыліс — усе ашукваюць і робяць нявінныя жарты. Але мала хто ўсведамляе, што такіх „святаў" зусім не ведалі нашы бацькі, дзяды. Тым не менш, і яны любілі пагуляць, пажартаваць, зрабіць камусь фокус. Такі час, калі ніхто не крыўдзіўся за жарты, прыходзіў у апошні вечар у годзе, званы Шчодрым, Багатым або, як на Падляшшы, Гагатухай.

Прытым трэба вам ведаць, што яшчэ ў пачатку нашага стагоддзя абавязваў у нас іншы — юліянскі каляндар, які спазняецца да цяпер прынятага — грыгарыянскага — на 13 дзён. У Праваслаўнай царкве да сённяшняга дня ўсе святы вызначаецца паводле старога стылю. Таму і Шчодры вечар прыпадае на 13 студзеня.

Ушанаваць гэты вечар сабралася ў зале беларускай мовы група вучняў Пачатковай школы н-р 3 у Бельску, якія ходзяць на краязнаўча-этнаграфічныя заняткі. Пра яго асаблівасці расказаў настаўнік краязнаўства Дарафей Фіёнік. А затым жывую батлейку — калядаванне з цэлым тэатрам — прадставілі члены тэатральнага гуртка, які вядзе пры Бельскім доме культуры Альжбета Тамчук. Паявіліся важныя постаці з біблейскай гісторыі і народнай міфалогіі, якія перапляталіся з сабою ў традыцыйнай беларускай батлейцы: цар Ірад, яго Жаўнеры, Анёл і Чорт, Цыган і Цыганка, Баба, якая не шанавала свята Хрыстовага Нараджэння. Акцёры ігралі першакласна!

Потым крыху старэйшыя каляднікі, ужо толькі з „гвяздай" заспявалі старыя падляшскія калядкі. Пасля настаўніца Валянціна Бабулевіч запрасіла ўсіх на традыцыйную ў гэты вечар страву: бульбяную кішку, якую папівалі шчолкам з яблык.

Наканец вычаўплі некалькі фокусаў. Праўда, ніхто не ўкраў школьнай брамкі ані не сыпаў попелам сцежак па калідорах. Але на дзвярах кабінетаў паявіліся картачкі, з якіх настаўнікі маглі даведацца крыху вучнёўскае праўды пра сябе. Ці хто пакрыўдзіўся, не ведаю.

**(мв)**

*Фота Аляксандра ВАЎРАНЮКА*


*Цар Ірад, Анёлы, Чэрці, Смерць, Жаўнеры і Цыганы з Навагодняй батлейкай.*

# Вадохрышча ў Нарве

Заўсёды дзевятнаццатага студзеня, на першы дзень Трох Каралёў, у нарваўскай царкве адбывалася багаслужба. Апоўначы ўсе збіраліся ў храм. Гэта было вялікае свята — Хрышчэнне Гасподняе. Галоўным абрадам было асвячэнне вады на рацэ Нарве. У час багаслужбы, каля пятай раніцы, усе ішлі на раку. За мостам ужо стаялі падрыхтаваныя ёлкі, вакол якіх збіраліся людзі. Айцец П. Паплаўскі гаварыў, каб людзі асцярожна ступалі, таму што лёд на рацэ можа праламацца. Выйшаўшы з царквы, мужчыны неслі харугвы, а хор спяваў царкоўныя песні. Перад асвячэннем вады святар выпускаў дзесяць галубоў, якія вярталіся да сваіх гаспадароў. Ваду бацюшка свяціў крыжам, а пасля, цэлы дзень, можна было ісці і браць ваду з ракі. Вярнуўшыся ў царкву, людзі бралі нарыхтаваныя кавалачкі крэйды. На дзвярах сваіх дамоў пісалі К. Г. (Крещение Господнее). Калі ўсе вярталіся, войт гміны загадваў спыніць вулічны рух, каб нікому не сталася бяда.

Сёння гэты абрад занікае, а айцец Б. Рошчанка разам з вернікамі пабудаваў каля царквы калодзеж. Цяпер там асвячаюць ваду.

**Аня САДОЎСКАЯ**

# Хрустальны калодзеж

***(швейцарская казка)***

Жыла-была ў гарах у старадаўнім замку маладая дзяўчына. Прыгажуня была, толькі ўжо ж вельмі ганарлівая. Колькі да яе жаніхоў ні сваталася, усім адмаўляла. Ды яшчэ і з насмешкай.

У адзін цудоўны летні дзень з'явіўся ў замак юнак. Спадабаўся ён дзяўчыне, аднак гонар не дазволіў ёй у тым прызнацца. Чаго ён толькі ні рабіў — і каштоўнымі падарункамі яе асыпаў, і казкі расказваў, і песні спяваў — яна кожны раз яму ў сваёй руцэ адмаўляла. Як ні маліў ён яе, ні прасіў, не хацела яна стаць яго нявестай, усялякі раз адно толькі слова паўтарала:

— Не!

Аднойчы вечарам пайшлі яны да крыніцы — крыніца з-пад скалы струменілася. І сказала дзяўчына:

— Ведаю, што ты можаш мне да дня вяселля трон княжацкі падарыць. Толькі гэтага мала. Хачу, каб замест скалы каля крыніцы ты пабудаваў мне калодзеж з каштоўных камянёў. Тады я стану тваёй нявестай. Але камяні павінны быць чыстыя, празрыстыя, як вада крынічная.

На тым і расталіся.

А матухна таго юнака ўсёмагутнай чарадзейкай была. Расказаў ён ёй, што дзяўчына ад яго патрабуе. Махнула яна чароўнай палачкай, і ў тую ж ноч калодзеж з каштоўных камянёў ля скалы з'явіўся. Пераліваецца калодзеж усімі колерамі вясёлкі. І назвалі яго ў народзе — Хрустальны.

На другую раніцу кажа дзяўчына юнаку:

— Нічога не скажаш, добры калодзеж ты па хаценню майму пабудаваў. Толькі ёсць у мяне яшчэ адно жаданне. Калодзеж без саду мне не патрэбны, так што давядзецца табе замест лесу ды калючага цёрну ў гарах сад пасадзіць. Тады пайду за цябе замуж.

Расказаў юнак сваёй матухне, што дзяўчына ад яго патрабуе. Махнула чарадзейка палачкай — і ўсё навокал расквітнела!

Як вечар апусціўся, прыйшла дзяўчына да крыніцы. Села ля хрустальнага калодзежа, агледзелася: вакол фіялкі ды ружы пунсовыя распусціліся, дрымучы лес квітучым садам стаў. Пакрылася зямля кветкамі, у кустах птушкі заспявалі. Вось дзе прыгажосць!

У дзяўчыны сэрца ад радасці так і страпянулася. Падышоў да яе юнак, і захацелася ёй нявестай яго называцца, але тут раптам убачыла свой замак, і здаўся ён ёй да таго старым, да таго някідкім побач з дзівосным садам і каштоўным калодзежам. Вось яна і кажа:

— Цудоўны гэты сад. Толькі ёсць у мяне яшчэ адно жаданне: хачу я замест старога замка новы, ды не просты, а ўвесь з рубінаў і жэмчугу. Тады пайду за цябе замуж.

Расказаў юнак сваёй матухне, чаго дзяўчына ад яго патрабуе. Разгневалася чарадзейка, палачкай сваёй махнула, і ў адзін момант цудоўны сад як скрозь зямлю праваліўся. І калодзеж зноў лясной крыніцай стаў.

Кожны вечар да лясной крыніцы цудоўная дзяўчына прыходзіла, у смутку суджанага свайго чакала. Але ён так і не вярнуўся. Зразумела яна: капрыз да дабра не прыводзіць!

# *Самотная шафа*

Шафа скрыпіць дзвярыма,
Дыхае грудзьмі пустымі:
Футры былі, штаны, паліто,
Сукенкі, спадніцы, цяпер — аніўто!
Нават і моль не схацела тут быць...
Шафе самотнай як цяпер жыць?
Вынеслі шафу з хаты на сметнік.
Тут яе ўбачылі жвавыя дзеткі.
— Нямодную шафу возьмем у клуб! —
Вырашыў першы разважны Якуб.
— Мы як вясёлку яе памалюем!..
— Паліцы ўставім, шафкі змайструем!..
— Кнігі і цацкі ёй на паліцы!..
— І будзе шафа на ўсю святліцу!

**Міра ЛУКША**

# Міфы старой Беларусі

**18. Дзед Мароз**

Беларусы нярэдка ўяўлялі розныя стыхіі як чалавекападобных істот, напрыклад — мароз.

Мароз — як запісаў на Палессі этнограф А. Сержпутоўскі, — гэта стары, сівы дзед з лёду. У яго чырвоны, быццам бурак, нос. Замест вусаў і барады ў яго сапліякі і ледзяшы, замест валасоў — куча інею. Мароз апрануты ў снежную сярмягу.

Ён любіць дужацца з Сонейкам, хаця і ведае, што немагчыма яго перамагчы.

Беларусы верылі, што Мароз служыць чалавеку. Трэба толькі яго задобрыць. Заўсёды ў час Каляд яны выносілі на двор лыжку абрадавай стравы і клікалі:

— Мароз, Мароз! Хадзі куццю есці. Каб вясной не марозіў гародніну, а восенню — садавіну.

Зімою Мароз чысціў ад пошасцяў паветра. Ён таксама масціў рэкі і азёры, непераходныя багны. У старажытнасці, калі многія абшары былі дрыгвяністы або заліты вадой, толькі ў час марознай зімы рабіліся яны прыступнымі чалавеку.



Малюнак Томка ДЗЕМЯНЮКА



*Зіма.* Малюнак Майкі БІЛЬМІН, вуч. І класа ПШ № 4 у Беластоку

# Адказ на літаратурны конкурс „Зоркі" № 9

1. Сапраўднае прозвішча „Цёткі" — **Алаіза Пашкевіч.**
2. Янка Купала быў **каталіцкага веравызнання.**
3. Бітва пад Грунвальдам вельмі арыгінальна апісаная ў старабеларускім летапісным творы *Хроніка Быхаўца.*
4. Аўтарам лібрэта да оперы Станіслава Манюшкі „Сялянка" з'яўляецца **Вінцук Дунін-Марцінкевіч.**
5. Помнік Францішку Багушэвічу стаіць у вёсцы **Жупраны** Ашмянскага раёна.

# Добраахвотнікі з Орлі



*Удзельнікі дэкламатарскага конкурсу.*

Школьны дэкламатарскі конкурс „Роднае слова" ў Орлі карыстаўся зацікаўленнем школьнікаў. У конкурсе прыняло ўдзел 11 вучняў з чацвёртага па шосты клас. Некаторыя ўдзельнікі выступалі ўжо чарговы раз. Дзяцей падрыхтавалі настаўніцы Галіна Адзіевіч і Ніна Шуй.

— У гэтым годзе ўсе дэкламатары прыступілі да конкурсу добраахвотна, — гаворыць спадарыня Шуй, настаўніца беларускай мовы ў чацвёртым і шостым класах.

— У старэйшых класах не было ахвотных, а мы не прымушалі, — паясняе настаўніца.

Найбольш паклоннікаў гэтага конкурсу ў малодшых класах. Сярод іх былі чацвёртакласнікі: Марк Маркевіч, Павел Саўчук, Лявон Ляўчук, Кася Карзун і Магда Навіцкая з Орлі, Караліна Жураў з Кашалёў, Анеля Бобер з Міклашоў і Павел Герасімюк з Крывятыч. У гэтым класе амаль усе дзеткі ходзяць на беларускую мову. Яны таксама чытаюць „Зорку".

У пятым класе да конкурсу прыступілі: Магда Лемеш з Кашалёў і Малгажата Рыбак са Шчытоў, а ў шостым толькі Мажэна Лемеш з Кашалёў.

— Усе ўдзельнікі вельмі цікава выступілі, — сказала ў канцы конкурсу настаўніца Яўгенія Тхарэўская.

— Трэба спадзявацца, што ў наступным годзе будзе аднак больш дэкламатараў, — дадала яна.

На раённыя элімінацыі папалі: Анеля Бобер, Караліна Жураў, Павел Герасімюк, Марк Маркевіч, Малгажата Рыбак, Магда Лемеш і Мажэна Лемеш.

Тут варта адзначыць, што дэкламаткі Магда і Мажэна Лемеш, родныя сёстры. Яны не толькі выдатніцы, але і актыўныя грамадскія дзяячкі ў школе і царкве. Таксама іх брацік, другакласнік Марк, старанна вывучае беларускую мову.

Дэкламатарскі конкурс „Роднае слова" меў вялікую і шчырую публіку. Трэба спадзявацца, што гэтая традыцыя не загіне. Пра конкурс дапытваліся ўжо другакласнікі.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**
*Фота аўтара*

# Польска-беларуская крыжаванка № 5

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ► | | | | Warga | ▼ | Banan | ▼ | Trąbka |
| Mityczny bóg zimy | Harmider | Żyto | Ząbek | ► | | ▼ | | |
| Łaskotanie | ▼ | Nurt | ▼ | Miednica | ► | | | Bar |
| ► | | ▼ | | ▼ | | | | ▼ |
| Clo | ► | | | | 📖 | | Jedzenie | |
| Rodzynek | ► | | | | | | | |

Адказ на крыжаванку н-р 52: як, схіл, кум, Лі, мур, лак, пpаталіна, рогат, хан, таракан — ял, Кіпр, рот, смага, хутар, сірата, ліха, банан, кант.

Узнагароды — аўтаручкі — выйгралі: **Марцін Лукошык** з Гарадка, **Ірэна Дрэўноўская** з Катоўкі; **Веслаў Лукашук** з Бельска-Падляшскага. Віншуем. Па ўзнагароды можна зайсці ў рэдакцыю „Нівы" або чакаць іх у сваёй школе.



Талон „Зоркі" № 5
01.02.1998

# Прыйшоў час каляднікаў

Хаця надвор'е было асенняе, пад Гайнаўскі дом культуры пад'язджалі аўтобусы з каляднікамі ў кажухах. Прыехалі яны не толькі праспяваць калядкі і праславіць Нованароджанага, але і пахваліцца прыгожымі „гвяздамі”, батлейкамі, паказаць свае тэатральныя здольнасці і павіншаваць гаінавян са святам Хрыстовага Нараджэння.

17 і 18 студзеня г.г. у Гайнаўцы адбывалася XVIII Ваяводская сустрэча каляднікаў — Гайнаўка '98. Паколькі прыехалі праваслаўныя і каталікі, можна сказаць, што спатканне набыло экуменічную якасць. Выступіла 39 выканаўцаў з розных мясцовасцей Беластоцкага ваяводства. Аднак найбольш было беларускіх калектываў, вядомых з аглядаў „Беларускай песні”. На гэты раз, згодна з традыцыяй Святых вечароў, паказалі прыгажосць каляднага спеву.

Першымі ў суботні вечар выступілі „Лісічкі”, вучні з Падставовай школы ў Ласінцы. Іх спеў выклікаў гарачыя воплескі. Маладыя спявалі на адзін або два галасы, а калядкі перапляталі з царкоўнай музыкай. Трэба сказаць, што вельмі краналыіымі былі выступленні ўсіх маладых каляднікаў. Калядкі кленіцкага „Сонейка” ўпрыгожыла цудоўная „гвязда”. Захапілі сваім выступленнем маладыя спевакі з Гайнаўскага дома культуры. Паказалі, што і маладыя могуць спяваць на тры галасы. Тэатральнымі здольнасцямі заваражылі публіку дзеці з Бельска-Падляшскага. Маладыя з Браньска і Боцькаў паказалі біблейныя здарэнні, звязаныя з нараджэннем Хрыстовым, або выступалі паводле свецкіх аповедаў аб д'яблах і смерці. Патрэбныя былі тут і мацнейшыя словы, але маладыя пераборшчылі — да таго гнулі матам, што некаторыя жанчыны жмурылі вочы і адварочвалі галовы.

— У старэйшых каляднікаў ацэньваць будзем аўтэнтычнасць іх мясцовых калядак, прыгажосць рэквізітаў, багацце прымавак і пажаданняў, ну і вядома, глядзець будзем на чысціню і меладычнасць спеву, — заявіў старшыня журы, прафесар Ежы Сьрудкоўскі. — Паколькі гэта толькі сустрэча, а не конкурс, не будзем надзяляць калектываў месцамі. Вылучым толькі чатыры выканаўчыя адзінкі, якія паедуць у наступным годзе на міжваяводскае спатканне каляднікаў.

Некаторыя каталіцкія калектывы паказалі высокі мастацкі ўзровень. Прыгожа спявалі калядкі, а іх тэатральныя выступленні былі займальнымі. Аднак, у гайнаўскай публікі не выклікалі асаблівага зацікаўлення. Польская мова і батлейкі ўспрымаліся як нешта новае.

„Крыўчанкі” з Крыўца паказалі простыя вясковыя спевы без стылізацый і апрацавання. Пасля калядак былі песні, якія спяваюць яны на Гагатуху і шмат пажаданняў. Гэта і быў аўтэнтычны фальклор з іх вёскі. У пажаданнях жанчыны не забылі пра сала ды гарэлку, характэрныя прыкметы застолля сапраўднага беларуса. Шчырасць, добразычлівасць і гасціннасць паказалі жанчыны з Паўлаў, якія выйшлі на сцэну ў кажухах і з прыгожай „гвяздай”. Ад гаспадара атрымалі прут сапраўднай вясковай каўбасы, а ў кошычку — можа і нешта да каўбасы. Думаю, што найпрыгажэйшую „гвязду”, якая зазззяла і свяціла са сцэны, паказалі „Чыжавяне”. Выдатна заспявалі „Арэшкі”. Іх галасы ўжо не адзін раз заваражылі журы і жанчыны вярталіся з мерапрыемстваў з узнагародамі. Не даехалі „Тыневічанкі”. Памёр іх сябра Ян Дудзіч. Гледачы ўспамянулі памерлага хвілінай маўчання.

Спявала яшчэ шмат калектываў вядомых з беларусіх аглядаў песні: „Збучанкі”, „Незабудкі” з Курашава, „Каліна” з Дашоў, „Вульчанкі” з Вулькі-Тэрахоўскай, „Красуні” з Краснага Сяла, „Арляне” і „Бярозкі” з Кнарыд. Былі і парафіяльныя хоры, якіх на аглядах песні не сустрэнем. Пра Шчодры і Святы вечар спявала „Маланка” з Бельска. Іх апрацаваныя калядкі гучалі непаўторна, а прыгожая „гвязда” і акампанемент скрыпак прыдалі мерапрыемству бляску. Гледачы ўспрымалі іх энтузіястычна.

Такая вялікая колькасць выканаўцаў не дазволіла правесці мерапрыемства за адзін вечар. Хаця выступленні былі цікавымі і займальнымі, на двух чатырохгадзінных марафонах здолелі выседзець да канца толькі вельмі заўзятыя слухачы. Калектывы раз'язджаліся з надзеяй, што недзе праз два тыдні атрымаюць запрашэнне на міжваяводскую сустрэчу каляднікаў.

**Аляксей Мароз**

# Маладая беларуская літаратура ў Ольштыне

Культурная супольнасць *Borussia* ў Ольштыне выпускае салідны і тоўсты культурна-літаратурны і гістарычны часопіс пад такім самым назовам. *Borussia 15/1997*, між іншага матэрыялу, прынесла падборку маладой беларускай і літоўскай літаратуры, галоўным чынам паэзіі. Пераклады беларускіх аўтараў зрабіў Чэслаў Сэнюх з Варшавы. Рэдактар часопіса, паэт Казімеж Браканецкі, запрасіў мяне ў Ольштын на прэзентацыю гэтага „беларуска-літоўскага” нумара. Запрашэнне дужа мяне ўсцешыла. Па-першае, была нагода наведаць Ольштын, у якім я ніколі не быў. Па-другое, я таксама падрыхтаваў падборку перакладаў беларускай сучаснай паэзіі на польскую мову, якая, спадзяюся, ужо неўзабаве выйдзе ў Беластоку кніжкай пад назовам *Za niebokresem Europy*. Засталося толькі напісаць пасляслоўе. Сустрэча ў Ольштыне была знакамітай нагодай папрактыкавацца ў такім пасляслоўі.

Прэзентацыя адбывалася ў Французска-польскім цэнтры ў Ольштыне, кіраўніком якога з'яўляецца ўжо згаданы Казімеж Браканецкі. Прыйшло каля 40 асобаў, што трэба залічыць да выдатных паказальнікаў прысутнасці на такога роду сустрэчах. Літоўскую паэзію прадстаўляў Эвалдас Ігнатавічус, культурны аташэ літоўскага пасольства ў Варшаве і адзін з аўтараў літоўскай часткі ў ольштынскім часопісе, а таксама маладзенькая перакладчыца Зузанна Ярашкевіч, радавітая полька, якая ні з таго ні з сяго вывучыла літоўскую мову. Перад маім выступленнем добрыя ўводзіны ў беларускую сацыяпалітычную сітуацыю зрабіў прафесар Мечыслаў Яцкевіч з Вышэйшай педагагічнай школы ў Ольштыне і Універсітэта імя А. Міцкевіча ў Познані. Народжаны ў даваеннай Вільні прафесар знакаміта гаворыць на літоўскай і беларускай мовах і выдатна разбіраецца ва ўсіх тонкасцях даўнейшай і цяперашняй гісторыі і культуры зямель былога Вялікага княства Літоўскага. Што больш, прафесар ведае паіменна і нават асабіста шмат каго з сучасных беларускіх паэтаў з пакалення маіх равеснікаў!

Я расказаў пра паэзію „Тутэйшых”, тае групы (ці, хутчэй, пакалення), якая адметна ўвайшла ў беларускую літаратуру на зломе дзвюх палітычна-культурных эпохаў пад канец 80-х гадоў. Цяпер, у 90-х, ейныя прадстаўнікі (людзі паміж 30-м і 40-м годам жыцця і аўтары аднаго, двух ці нават трох паэтычных зборнікаў) вызначаюць у шмат чым сучасны воблік беларускай паэзіі і ўвогуле ўзровень інтэлектуальнага жыцця ў Беларусі. Дзеля ілюстрацыі свайго выступлення я чытаў пераклады вершаў Анатоля Сыса, Адама Глёбуса, Тацціяны Сапач, Ігара Бабкова, Славаміра Адамовіча і Ігара Сідарука. Нягледзячы на значную колькасць дакладчыкаў, прысутныя былі яшчэ ў змозе ставіць пытанні, і то не проста ад ветлівасці, а ад сапраўднага зацікаўлення. У Польшчы для беларушчыны не найгоршы час — шмат каму цікава даведацца, а як жа ў сапраўднасці выглядае культура народа, палітычны лідэр якога задэкляраваў, што „за цывілізаванымі краінамі не пойдзе” і хоча ўжыццявіць ідэал дзяржавы і палітычнага кіраўніцтва характэрныя гітлераўскай Германіі. Сустрэча зацягнулася гутаркай пра польска-беларускія дачыненні ўвогуле ды пра становішча беларускай мяншыні ў Польшчы. Я моцна-такі змарыўся, але пайшоў спаць *z poczuciem dobrze wypełnionego obowiązku*.

* * *

Наступнага дня ўдалося мне пабачыць Ольштын з дапамогай нашага земляка і ад 20 гадоў карэспандэнта „Нівы”, Андрэя Гаўрылюка з Відава, што пад Бельскам. Андрэй „ужаніўся ў Ольштын” і цяпер тамака тужыць па роднай старонцы. Андрэй збірае прэсавыя матэрыялы, якія датычаць беларускай ці беларуска-беластоцкай праблематыкі, робіць ксераграфічныя адбіткі і выдае нешта накшталт сямейназямляцкага часопіса пад назовам „Грабіна” (так называецца ўрочышча ў тым жа Відаве пад Бельскам). Наракае, што з году ў год выдаваць „Грабіну” яму штораз цяжэй, што адчувае недахоп зацікаўлення беларускімі справамі з боку якраз саміх беларусаў. Як старшыня Тэрытарыяльнай рады Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ў Ольштыне, ён паскардзіўся мне, што ўжо ад нейкага часу не атрымлівае ніякіх „матэрыялаў з цэнтру”. Публічна звярталіся ў гэтым месяцы да шэфа БДА Пятра Крука — БДА цяпер змагаецца за перарэгістрацыю і патрабуе подпісаў у падтрымку. Андрэй Гаўрылюк абяцае сабраць у Ольштыне не менш за 30 — ці ж не варта іх скарыстаць? Пытанне, безумоўна, рытарычнае.

**Ян Максімюк**

# Ушанаванне памяці вазакоў

1 лютага 1998 года (у нядзелю) а гадзіне 11 у Бельску-Падляшскім, у капліцы на могільніку па вул. Войска Польскага, служыцца будзе паніхіда ў гонар загінуўшых трагічна 30 асоб (вазакоў), якія 31 студзеня 1946 года былі па-зверску замардаваны ўзброеным падполлем каля вёскі Пухалы-Старэ.

Пасля паніхіды Грамадскі камітэт і члены сем'яў памардаваных сустрэнуцца ля брацкай магілы.

# Маладая Беларусь

Нядаўна паказаўся чарговы нумар „Borussii”* — альштынскага часопіса, прысвечанага справам літаратуры, гісторыі і культуры. Гэтае рэгіянальнае выданне, з увагі на універсалізм закранутых праблем, з часам сталася агульнапольскім. Сама Вармія, дзе ад вякоў крыжаваліся ўплывы польскай і нямецкай культуры, у апошніх дзесяцігоддзях стала малой айчынай для ўкраінцаў вывезеных з Бяшчадаў, Холмшчыны, рэпатрыянтаў-палякаў з усіх куткоў Савецкага Саюза. Гэтая шматкультурнасць і шматнацыянальнасць Варміі мае адпаведнае адлюстраванне ў кожным нумары „Borussii”.

Для беларусаў апошні нумар часопіса мае яшчэ і тую вартасць, што змяшчаецца ў ім у перакладзе на польскую мову агляд творчасці маладых паэтаў і празаікаў з Рэспублікі Беларусь. Прэзентацыя творчасці папярэджана кароткім артыкулам Мечыслава Яцкевіча пра сітуацыю, у якой апошнім часам апынулася беларуская літаратура. З аналізу Яцкевіча вынікае, што ў апошніх гадах, насуперак палітыцы лукашэнкаўскага рэжыму, творчасць на беларускай мове праяўляецца ў штораз новых — найчасцей правакацыйных — формах. Зборнік паэзіі Славаміра Адамовіча *Каханне пад акупацыяй* разышоўся вокамгненна шматтысячным тыражом. Сёння ў Беларусі купіць Адамовіча — гэта не толькі праява зацікаўлення паэзіяй, але дэманстрацыя адносін да ўладальнікаў краіны. Другі ўводны артыкул пра беларускі народ і беларускую дзяржаўнасць змяшчае гродзенскі гісторык Алесь Краўцэвіч. Высnова аўтара такая: Беларусь ніколі не была ні Польшчай, ні Расіяй, а сёння ёсць самастойнай дзяржавай.

*Проба маніфесту* Алеся Аркуша, стваральніка і старшыні Таварыства вольных літаратараў, у сапраўднасці з'яўляецца адначасова дэманстрацыяй паражэнства („Мы ўжо нікому не верым”) і аптымізму („Выгадуем беларускага Генія”).

„Borussia” змяшчае новыя вершы Анатоля Сыса, Алеся Аркуша, Славаміра Адамовіча, Міколы Антаноўскага, Алеся Чобата, Юрыя Гуменюка, Сяргея Мінскевіча, Ігара Сідарука, Валянціны Аксак, Людкі Сільновай, Вольгі Русілка і Тацціяны Сапач. Усе ў перакладзе Чэслава Сэнюха. Творчасць гэтых паэтаў, магчыма, больш дакладна адлюстроўвае настрой і псіхалагічную сітуацыю ў Беларусі, чым уся тамашняя, афіцыйная і неафіцыйная, публіцыстыка. Ці ж можна карацей і дакладней прадставіць рэакцыю беларусаў на ўзнікненне свае дзяржавы чым Ігар Сідарук у вершы *Прага свабоды*: „Z budy uciekł pies szukać mocniejszego łańcucha”? **(ям-ч)**

*„Borussia”, 1997, nr 15 (Olsztyn).

# Арлянскі самаўрадавы рэжым

**З той пары, калі гміны сталі самаўрадавымі адзінкамі, у Орлі час быццам бы адступіўся назад. Парушаюцца тут абавязкі самаўрадавых работнікаў, а перавага аддаецца хітрунству і нахабству. Наглядна выяўляецца гэта на сесіях Гміннай рады. Большасці народных абраннікаў закон аб тэрытарыяльным самаўрадзе зусім невядомы...**

Адтэрмінаваная XX сесія Гміннай рады адбылася 26 лістапада мінулага года. Пачалася яна спакойна і талкова, каб пазней ператварыцца ў хаатычнае і поўнае недарэчнасцей відовішча. У пасяджэнні, якому старшыняваў Яўген Зінкевіч, удзельнічала 16 радных, з ліку якіх толькі чатырох арлянскіх вылучыліся канкрэтнай актыўнасцю і адвагай.

Першым пунктам павесткі дня была ацэнка становішча ў галіне аховы публічнага парадку ў гміне. З інфармацыяй на гэту тэму выступіў камендант Камісарыята паліцыі ў Орлі камісар Ежы Харкевіч. У гміне было ўзбуджаных 18 крымінальных спраў, а традыцыяй сталі ўжо ўзломы ў прадуктовую краму мясцовага ГСа. Зачынены нядаўна клуб disco polo замест карысці прынасіў адны толькі клопаты. Затым, з чарговай інфармацыяй, выступіла кіраўнік Гміннага асяродка сацыяльнай дапамогі Вяслава Бжана.

Арлянская пажарная каманда атрымала ўрэшце спраўную машыну маркі „Камаз", якую абсталявалі проціпажарнай тэхнікай. На сесіі разважалі, што зрабіць са старым аўтамабілем. Выходзячы з эканамічных меркаванняў, плануецца прыстасаваць школьную кацельню да апалу саляркай. Далей не вядома, што рабіць з жылым блокам пры школе, завяршэнне пабудовы якога зацягваецца.

Радны Славамір Сахарэвіч (настаўнік) патрабаваў аднавіць дарогі, якія не рамантаваліся чатыры гады, і ўпарадкаваць парк ды запытаў пра кошты тэлефанізацыі гміны (падключэння да аўтаматычнай АТС) і пра колькасць грошай адведзеных на асвету.

Тлумачэннем войта гміны Міхала Іванчука востра запярэчыў радны Аляксандр Шыманскі. На яго думку, войт упрыгожвае вобраз гмінных дасягненняў, бо ў сапраўднасці справы інакш маюцца. Нават на сесіі не даюць раднаму даказаць пытанне да канца, а ўжо самі абараняюцца. Радны Славамір Сахарэвіч адзначыў, што ўлады хваляцца перавыкананнем плана будовы дарог, але іх якасць і эстэтыку не прыраўняць да суседніх гмін. Радны Аляксандр Багацэвіч у сваю чаргу запытаў, які ўдзел маюць войт і старшыня рады ў пабудове дарог, калі выканаўцы самі напрошваліся з паслугамі. Затым радны Аляксандр Шыманскі адзначыў, што ў 5 пункце павесткі дня меліся разглядацца інвестыцыйныя заданні, а тут аказваецца, што няма каму прадставіць канкрэты, а войт не ўмее зрабіць даклад аб выкананні інвестыцый у гміне. Гэта ж несур'ёзнае стаўленне да радных і сесіі!

Член Гміннай управы і заадно радны Мікалай Рэнгайла запытаў войта пра павелічэнне зарплат для гмінных чыноўнікаў, пра водпуск войта (які ўжо тры гады ім не карыстаўся — радны лічыць, што войт не так і ўжо абцяжараны працай), а таксама колькі зарабляе кіраўнік гміннай адміністрацыі. Войт спярша спытаў, у якой газеце будуць пра гэта пісаць, а затым адазваўся насмешліва і даволі груба: „Зарабляю сарочку ззаду".

Атмасфера на пасяджэнні Гміннай рады стала згушчацца. Радны Ян Рыдз з Шарнёў (ён заадно работнік СКРа) стаў прыдзірацца да мяне і пытаць, хто мяне запрасіў на сесію, бо радныя не хочуць, каб пра іх пісалі ў газетах. На гэта Аляксандр Багацэвіч адказаў, што радныя не прымалі рашэння, якое не дапускала б карэспандэнтаў газет на сесію. Старшыня рады Яўген Зінкевіч схлусіў і сказаў, што тэлефанаваў у „Ніву" і „Тыгоднік падляскі", дзе яму сказалі, што нікога на сесію ў Орлю не пасылалі. Калі я запрапанаваў яшчэ раз пазваніць у Беласток, у маёй прысутнасці, старшыня адмовіўся. Тады радны Славамір Сахарэвіч (ён заадно і дэлегат Самаўрадавага сейміка) напомніў старшыні рады, што ў пасяджэнні Гміннай рады можа прысутнічаць кожны жыхар гміны, а калі сесіі прыслухоўваецца карэспандэнт, то старшыня павінен пра гэта паведаміць радных, каб тыя сталі думаць, што яны гавораць. Калі адбываецца закрытая сесія, пра гэта грамадзян і прэсу трэба паведаміць раней. Дадаў ён яшчэ, што на пасяджэннях Сейміка ў Беластоку прысутнічаюць многія прадстаўнікі прэсы. Таксама радны Аляксандр Шыманскі заўважыў, што прысутнасць прэсы цывілізаваным людзям не перашкаджае.

Збянтэжаны старшыня не здаваўся і недарэчна гаварыў, што ён праверыць, якія ў радных правы і паставіць гэта пад галасаванне, і калі большасць вырашыць, то прадстаўнікоў прэсы тут не будзе. Радны Васіль Майстровіч з Рудут усхваляваўся і звярнуў старшыні ўвагу, каб паведамленні на сесію высылаліся пісьмова, бо ў Рудутах ёсць толькі адзін тэлефон і здараецца, што ён не ведае, калі адбываецца пасяджэнне Рады. Радны Мікалай Рэгнайла пад канец сесіі яшчэ раз запатрабаваў адказаць яму на пастаўленыя ім тры пытанні. Параілі яму падаць гэтыя пытанні ў пісьмовай форме і чакаць адказу ў двухтыднёвы тэрмін.

* * *

У Орлі аб павышэнні зарплаты войту вырашае Управа (6 радных плюс войт). Ці ж гэта не парадокс, калі пяць радных выказваюцца за павышэнне, не ведаючы пра яго велічыню. Толькі адзін Мікалай Рэнгайла супрацівіўся такой практыцы. Выходзіць, што павышэнні прапануе сабе сам войт, скрываючы прытым велічыню сваіх заробкаў. І адбываецца такое ў сітуацыі, калі сваіх акладаў не скрываюць ад грамадства ні прэзідэнт краіны, ні парламентарыі, ні бурмістр суседняга Бельска.

Халатныя адносіны войта да сваіх абавязкаў і наведвальнікаў выклікаюць штораз большае абурэнне ў грамадстве, тым больш што нярэдка можна яго сустрэць на працы пад мухай. Апошні таў інцыдэнт здарыўся 24 снежня мінулага года. У гэты дзень жыхар Орлі Ілья Адзіевіч спрабаваў афоміць справу, але не атрымалася, бо войт быў нецвярозы. Давялося вызваць паліцыю, аднак войт адмовіўся дзьмуць у трубку з шарыкам. Тады прыехала раённая паліцыя і забрала войта ў Бельск для праверкі стану ап'янення на апаратуры „alkomat". Зараз вядзецца следства, дапытваюцца сведкі.

**Міхал Мінцэвіч**

# Папраўка

У 39 (2159) н-ры „Нівы" ад 28 верасня 1997 года ў артыкуле Міхала Мінцэвіча „Страсці вакол «Фольксвагена»" намі была дапушчана памылка. Інфармацыю пра завінавачанасць СКРа для Гміннай управы пераказалі скарбнік Аляўціна Іваноўская і радны, які <u>не быў</u> работнікам СКРа. За памылку перапрашаем спадара Мікалая Валасовіча і аўтара.

**Рэдакцыя**

# Як дзве бабе

Колькі жанчын у нашай краіне, а колькі „брыдчэйшага", хоць быццам бы мацнейшага полу? Статыстыкі кажуць, што кабет трошкі болей.

— О, не, — скажуць па нашых вёсках, — у нас то якраз мужчын больш. Колькі кавалераў страціла ўжо надзею...

А не, няпраўда. Статыстыкі сцвярджаюць, што ў вёсках болей кабет! Таксама „вольных", але ўдоваў. А чаму ж гэта бабы даўжэй жывуць? Можа, не так яны напрацаваліся, як мужчыны? О не, сённяшнія ўдавіцы ўставалі і кладліся зацямна, гнулі, бывала, спіны яшчэ і за сярпом, за матычкай. І дзяцескаў у іх было столькі, што школы ў швах трашчалі! А што чалавекаў, апроч працы, столькі звяло ў магілу? Махорка і гáра. Калі яна печані не спаліла, то замарозіла пад плотам ці ўвалакла пад машыну. А то за нажы браліся, рэзаліся. І маладыя, і сталыя, розуму як не мелі, так і не маюць. Цяпер кажуць, што ад роспачы п'юць. А маткам і жонкам глядзець на гэта толькі і хаваць іх аднаго за адным. За жыцця наплачуцца, нашкадуюць. Жывёла здохне — і то шкада, а што ўласны чалавек!

І ўдоваў таму столькі цяпер па нашых вёсках. Статыстыку набіваюць.

Значыць, мужыкі сёння ў цане, тыя старэйшыя. Як цуд натуры яны нейкі. Такі, пэўна, і памяркоўны быў з чаркай, і з курэннем у час адумаўся. Ну, еў усё жыццё „здаровую ежу", не толькі было на продаж ці дзецям тое яйка, сыр ці кумпячок. Такому дзядзьку цяпер — во! якая цана! Бо хоць нашы бабы ўсё ў гаспадарцы ўмеюць зрабіць, то што мужчынская рука, то яно вядома. А калі хоць нават абы-які мужчынка паявіцца на вуліцы, то аж жыць хочацца, вясялей робіцца, — жартуе Верка, хоць у яе самое свой чалавек не такі ўжо і стары, і досыць яшчэ дужы. Ён жа зранку і з вечара пампуе малако з кароў — Верка не мусіць амаль да нічога ў гаспадарцы дакранацца. Маглі б, дарэчы, абое на пенсію ісці, зямлю здаць дзяржаве. Але сэрца баліць, як зямля быльнягом зарасце, бо ні свае, ні чужыя яе не хочуць. А зямля ў Веркі і Жоры добрая, тарфяністая, дбала выробленая. Ім добра, сыны прыедуць з Беластока, памогуць, то жартаваць можна. Жарты старых трымаюцца, бо не каб той смех, то гатоў жывым лезці ў магілу. Ёсць аб чым пагаварыць на лавачках пад хатамі.

— Ужо перамылі костачкі кума куме, то абгаворым усю гміну. А што тут рабіць, ано серыялы, тыя „Моды на сукцэс" усё глядзець, і чакаць абвознае крамы. Час ад часу — „пагатове". Звыкліся. Сваіх адводзім да крыжыка, хіба што сям'я залатвіць аўтобус на могілкі. Такі вось серыял у нас штодзень — устаў, дзівішся, жывы яшчэ, то і добра, — кажа баба Стэпа.

А часам „серыял" свой, вясковы людзі маюць. З уласнымі вядомымі акцёрамі.

— З „прыключэннямі", — кажа дзед Ясько. — З гэтымі самымі, трукамі, як ім там. Такое можна і найграць, і пусціць у „Смеху варта", то ці не выйграў бы?

Бо ці не смешна, як старая (якая гэта старасць у 63 гады?) баба ўзлазіць на суседчыну лавачку і амаль прылюдна кладзе на ёй сваю пракуду? За такое паведаміць адразу як не пракуратуру, то хоць ваяводскую санэпідэмстанцыю!

— Гэта злачынства ў афекце, то засудзіць павінны менш, — дзед Ясько накладае на твар сур'ёзную маску; сын ягоны працуе ў судзе, то знаецца на такіх вось справах. — А тут у М. такія страсці! Так бывае ў гарачым каханні, гэ-гэ-гэ. З любоўю няма жартаў.

— Ды якое тут каханне! — махае рукой абдораная суседчынай кучай васьмідзесяцігадовая Агафья. — Ці мне, старой, над магілкай, углядацца ў чужога мужчыну? То ж яму мала больш, як майму сыну! Учапілася Гэлька, што яе чалавек да мяне ходзіць! Жыць не дае! Як мяне яна ўжо не абзывала! Хай Тодар вязе яе ў Харошчу, бо як не, то паеду ў пракуратуру ў Беласток!

— Здаецца, Гэлька зусім нармальная баба, ведаю ж яе ад малое, — ківае галавою Ясько. — Праходу Агаце не дае. Абазве ад найгоршых, біцца кідаецца. А сама ж такая хароша, як пончык, румяная; я, стары, на яе наглядзецца не магу. Не то, што тая тычка Агата, яе толькі на полі як пудзіла паставіць. Эй, дурнота, каб Тодар хацеў, меў бы бабулек паўвёскі, і малых, і вялікіх, і тлусцейшых, і танчэйшых, ано выбірай. Дай, Божа, дайсці Гэльцы да розуму!

І дадае, гледзячы на мяне ацэньваючым вокам:

— Вы толькі не ідзіце да Макаркавых. А то Гэлька палічыць вас наступнай у чарзе, не будзе глядзець на вашы рэдактарскія паперы, а добра ўлупіць!

**Міра Лукша**

*(Імёны персанажаў зменены)*

# Важнейшыя мерапрыемствы ў 1998 годзе

У распрацаваным Аддзелам культуры, спорту і турызму Ваяводскай управы ў Беластоку графіку важнейшых культурных мерапрыемстваў у 1998 годзе ўключаны імпрэзы, у ходзе якіх будзе прэзентавацца беларуская культура або, як можна спадзявацца, будуць прадэманстраваны беларускія акцэнты. А вось важнейшыя з іх:

— XXIX Агульнапольскі фестываль „Беларуская песня '98" у Беластоку — 15 (цэнтральны агляд) і 22 лютага (гала-канцэрт).

— V Прэзентацыя беларускіх абрадных калектываў у Нарве — 24 мая.

— XVII Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі „Гайнаўка '98" — 24-31 мая.

— Дні Бельска-Падляшскага — 30 мая — 7 чэрвеня.

— II Ваяводская прэзентацыя дзіцячых і маладзёжных калектываў песні і танца ў Бельску-Падляшскім — 6 чэрвеня.

— Міжнародны сімпозіум „Музыка сямейных абрадаў" у Нараўцы — 15-21 чэрвеня.

— XXII Свята беларускай культуры ў Беластоку — 22 чэрвеня.

— XIV Купалле ў Белавежы — 4-5 ліпеня.

— Святаянская ноч Купалы ў Нарве — 4-5 ліпеня.

— II Дні Кляшчэляў — 1-3 жніўня.

— V Бардаўская восень у Бельску-Падляшскім — 24-25 кастрычніка. **(вл)**

# Нарадзілася я ў бежанстве

**Галена КУБАЕЎСКАЯ (дзявочае прозвішча Шайкоўская) нарадзілася ў Расіі. Пасля вяртання на радзіму, калі было ёй усяго два з паловай годзіка, стала паўсіратою. Сёння 80-гадовая жыхарка Орлі ўспамінае расказы бацькі і апавядае аб жыцці ў міжваенны перыяд.**

— Мае бацькі, Дарафей і Матрона, разам з дзецьмі выехалі ў Расію ў 1915 годзе. Наша сям'я і яшчэ некалькі сем'яў з Орлі, між іншым Аляксандра Амельяновіча і Аляксандра Кубаеўскага, пасяліліся ў Раманаве Яраслаўскай губерні. Усе мы жылі ў вялікім доме ля самой ракі Волгі. Мой бацька атрымаў працу ў часальні льну і на работу даязджаў па Волзе. Маці займалася дзецьмі, якіх было многа. Неўзабаве, бо 16 мая 1916 года, нарадзілася і я — Галена. Бацюшка, які хрысціў мяне, здзіўляўся майму польскаму прозвішчу. Называлі мяне Лёляй, бо ў Орлі дачку ўладальніка кафлярні, прыгажуню Галену, так называлі.

Бежанцам плацілі паёк — па 20 капеек у дзень на душу. Мясцовае насельніцтва ставілася да бежанцаў прыхільна. Можна было знайсці работу, неяк уладкавацца, але людзі часта хварэлі тыфам. У Орлю вярнуліся мы ў 1918 годзе і неўзабаве памерла мама. Было мне тады два з паловай года. Жылося нам вельмі цяжка. Тата ажаніўся другі раз. Я на мачыху не наракала.

У Орлі былі яшчэ немцы, але незадоўга адступілі. Наш дом знаходзіўся побач яўрэйскіх могілак ля сінагогі. Праз акно відаць было надмагільныя камяні. Мы моцна баяліся і мачыха засланяла акно радзюжкай. Сёння ад могільніка і следу не засталося. Стаяць на ім дамы, праклалі дарогу. Калі капалі фундаменты, выкопвалі людскія косці, чэрапы.

У школу хадзіла я толькі пяць гадоў. Вучыліся мы па-польску. Разам з намі вучыліся яўрэйскія дзеці. Яўрэі ў час шабашу наймалі хрысціян паліць у печах. Я абслугоўвала 10 яўрэйскіх дамоў. Бывала, што не паспееш выйсці за парог, а яўрэйка ўжо крычыць: „Эй, ужэ пагасло!". Трэба было таксама змыць падлогу і прыбраць шалупінне цыбулі, бо яны ежу сабе загадзя рыхтавалі. Плацілі 10 грошаў ад печкі, так што зарабляла я злотоўку, а туфлі тады каштавалі два злоты. Некаторыя яўрэйкі давалі мне яшчэ па булцы. Бедна мы тады жылі і ўсе цешыліся, калі я прыносіла булкі. Яўрэям жылося добра, бо ім з Амерыкі слалі пачкі. Яўрэйскія гандляры не былі кепскія, давалі тавар у крэдыт, бо ў нашых людзей не было грошай. У семнаццацігадовым узросце наелася я гароху і захварэла на „халерыну". Тады мой старэйшы брат пайшоў ноччу да яўрэя Шэршня, які жыў побач царквы, прасіць дапамогі. Той даў лякарства на спірце і гэтым я вылечылася.



*Гэты здымак быў зроблены пасля вяртання з бежанства ў 1920 годзе. Стаяць злева: Аляксандр Амельяновіч і Аляксандр Кубаеўскі. Сядзяць злева: Аляксандр Федаровіч, Канстанцін Нестаровіч (служыў у Чапаева) і Ян Мураўскі.*

Нас, праваслаўных, раздражняла тое, што калі ў пятніцу ці суботы змучаныя вярталіся мы з поля, яўрэі шпацыравалі сабе па тратуарах. А былі іх у Орлі тысячы.

Калі ў 1939 годзе прыйшлі рускія, дык занялі некаторыя яўрэйскія дамы. У адным будынку зрабілі кухню, а нам, маладым дзяўчатам, трэба было хадзіць туды скрэбці бульбу. Калі ў сорак першым саветы адступалі, тады забілі некалькі бязвінных чалавек. Намаўлялі нас эвакуіравацца разам з імі, але людзі не хацелі выязджаць, а маладыя мужчыны хаваліся па лясах. Немцы паказаліся нам спачатку ветлівымі людзьмі. Былі сярод іх чэхі. Тут, на рынку, прыводзілі яны сябе ў парадак, а дзецям, якія збегліся пагглядзець чужынцаў, давалі цукеркі, шакалад, мыла.

У час II сусветнай вайны праваслаўным не было так і кепска. Горшымі за немцаў аказаліся свае даносчыкі. Немцы гаварылі так: „Калі ваш сабака брахаць не будзе, тады і наш будзе спакойны".

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

# Як яно ёсць...

**Гутаркі ў дарозе**

Шмат людзей чакала лекара ў прыёмнай. Доктар прыняў дзве асобы і выйшаў з кабінета. Людзі хвілін з пяць маўчалі, а пасля разварушыліся.

— Ага, кудысьці пайшоў ды прапаў, — азвалася маладая невысокая жанчына.

— Відаць, так яму і трэба, — спакойна адказала пажылая цётка ў хустачцы завязанай пад падбародкам.

— Цяпер то цяжка „дабіцца" да дактароў, — заўважыла старэйшая фарбаваная бландзінка. — Вось так у нас у вёсцы: прыедзе лекар раз у тыдзень, а народу назбіраецца з усяе гміны. Усіх, вядома, прыняць не зможа. Дваццацёх пагглядзіць, не больш. А ў „прыватнага" заплаці за прыём і лякарствы. Вазьмі ты і хварэй!

— У нас такое праблемы няма, — азваўся дзядзька ў шэрым касцюме. — Лекар ёсць кожны дзень, бо жыве на месцы. Да яго людзей няшмат ідзе, можна ж кожны дзень да яго зайсці. Затое да стаматолага чарга даўжэзная штодзень, нават малых дзяцей шмат, вельмі ж папсаваныя ў іх зубы.

— А бо распуста цяпер, ад малога ано цукеркі, шакаладкі. Вядома, ад гэтага зубы марнеюць, — заўважыла бландзінка.

— Дзе распуста, а дзе не. Дзе тут ласункі, калі бацькі страцілі „куранёўку", а на хлеб не хапае! — аж падскочыў на крэсле мужчына малады, але з сівой чупрынай.

— Вядома, — згадзілася бландзінка, — ёсць і так. Але я ведаю такіх, якія не маюць кепска. Вось у нас некалькі сем'яў маюць гаспадаркі. Зямля слабенькая, але пасеюць і ўгадаваць штосьці можна. Два гектары на асобу. Хто раней працаваў, мае „куранёўку". Папаліць у „катлоўні" ў час, калі трэба абаграваца, і зноў праз паўгода яму плацяць.

— Як гэта так?! — абурылася дзяўчына ў шырокім швэдры. — Маюць гаспадарку і „куранёўку"? Гэта аж неверагодна! Хто працуе для смеху, а каму сапраўды трэба нагібацца, каб неяк утрымаць сям'ю, а ў хаце няма што ў рот дзецям даць!

— Во-во, вось ад такой сітуацыі і захварэць сур'ёзна можна, — паківала галавою цётка ў хустцы. — У нас некалькі чалавек маюць *рэнту* і працуюць на гаспадарцы. Робяць усё, і на выгляд неяк яшчэ трымаюцца, але ёсць і такія, што ледзь ногі валакуць, а пенсіі не маюць. А чаму так ёсць, скажыце?

— Я не ведаю, чаму так ёсць на свеце, — уздыхнуў мужчына ў шэрым касцюме. — Вось у мяне ёсць такія знаёмыя: сям'я ў іх дзяцей, адно калекае — чатыры яму годзікі, а яшчэ не ходзіць. Бацькі п'юць гарэлку. „Апека" дае ім дапамогу, а яны ўсё прапіваюць. Хлеба не хапае. Калі б не дзяды з бабамі, то не выжылі б! Дзеткі стаяць у дзвярах, крычаць чужым: „Бабця, дай мне хлеба!", то як жа не дасі!

— То нашто грамадству такім даваць „запамогу"! Ці не лепш тым бедным дзецям было б у дзетдоме? — заламала рукі бабуля ў хустцы.

— Відаць, улады разумеюць інакш... Тыя большыя то хоць выйдуць з хаты, папросяць у чужых, або ў лес пабягуць, ягад наядуцца...

— А што бацькам, панароджвалі, а хай дзяржава гадуе! — знервавалася дзяўчына. — А бацькам і больш не трэба, бутэлька ім радня!

— А якая будучыня ў тых дзяцей, ну, скажыце? Чаго яны навучацца, у каго возьмуць прыклад, хто ім паможа ў жыцці? — уздыхнула бабуля.

— Вось, як гэта бывае на свеце, — аднаму не хапае хіба што птушынага малака, а іншы грызе сухі хлеб... — паківала галавой невысокая.

Тут і лекар вярнуўся. Людзі змоўклі, кожны заняўся пільнаваннем сваёй чаргі.

**Аўрора**

# „Наша ніва" і ўсходняя Беласточчына

**Частка 9**

Многія публікацыі „Нашай нівы" звязаныя з усходняй Беласточчынай датычылі арганізаваных вясковых бібліятэк. Як ужо гаварылася, не ўсе жыхары вёсак гадзіліся, каб у іх мясцовасцях дзейнічалі кніжныя пляцоўкі. Аднак з тыднёвіка даведваемся, што таксама ўлады праяўлялі дзіўныя адносіны, калі не да саміх бібліятэк, дык да сабраных у іх кніжак. І так аўтар падпісаны псеўданімам Нэмо ў 35 нумары „Нашай нівы" паведаміў наступнае:

„24 лістапада ад Гродзенскага губернатара выехаў чыноўнік „асобых паручэній" рабіць рэвізію ў народных бібліятэках Бельскага павета (у вёсцы Шчытах, Кленіках і Дубічах-Царкоўных...) Рэвізія рабілася пасля даносаў людзей, каторым не спадабалася праца дзеля прасвятлення народа. Чыноўнік, разгледзеўшы спіскі кніжак, прызнаў, што кніжкі Дастаеўскага, Талстога, Караленка (хаця ўсе дапушчаны цэнзурай) не павінны быць у бібліятэках для народа. Заведуючых бібліятэкамі пастрашыў, што іх пакараюць за тыя кніжкі".

Бібліятэчнай справы датычыць таксама публікацыя з 36 нумара „Нашай нівы" нястомнага карэспандэнта Халімона з-пад пушчы. Аўтар гаворыць аб складанасцях, звязаных з адкрыццём у Шчытах бібліятэкі. Бібліятэка гэта, нягледзячы на згоду з боку улад, не магла дзейнічаць, бо грамада не хацела выдзеліць 20 рублёў у год на яе ўтрыманне. Аўтар заканчвае публікацыю горкім зваротам: „Ці ж вы хочаце, каб сыны і ўнукі вашы жылі ў такой самай цемнаце, як вы жывяце. Памятайце, што ідуць новыя часы і без навукі цяпер ужо не пражывеш, як даўней".

Калі падлічым усе публікацыі, змешчаныя галоўным чынам у рубрыцы „З Беларусі і Літвы", дык дойдзем да вываду, што колькасць вестак аб усходняй Беласточчыне, галоўным чынам аб Бельскім павеце, значна перавышае колькасць артыкулаў, прысвечаных якому-небудзь іншаму беларускаму рэгіёну. Найбольшыя і па сутнасці найцікавейшыя публікацыі належалі Халімону з-пад пушчы, г.зн. Яўгену Хлябцэвічу, які дасканала разбіраўся ў спецыфіцы жыцця сялян на Бельшчыне і шырока інфармаваў аб ім чытачоў „Нашай нівы".

Дагэтуль разглянулі мы толькі тыя весткі з беларускіх вёсак з усходняй Беласточчыны, якія былі змешчаны на старонках „Нашай нівы" толькі за 1907 год. Колькасць гэтых публікацый, а таксама іх якасць сведчаць аб тым, што наш беластоцкі рэгіён меў разважных карэспандэнтаў, якія інфармавалі ўсіх чытачоў „Нашай нівы" аб падзеях у нашым Беластоцкім краі.

Практычна ўсе інфармацыі аб жыцці нашых продкаў адзначаліся фактаграфізмам і аўтэнтызмам. Інфармацыі гэтыя адносіліся да ўсіх сфер тагачаснага беларускага жыцця і чытаючы іх сёння бачым каларытную і пластычную карціну побыту беларусаў у пачатку XX стагоддзя. Дзякуючы „Нашай ніве" даведваемся аб многіх фактах, якія мелі трагічны або драматычны характар, але побач іх тыднёвік інфармаваў таксама аб здарэннях смешных і камічных. Значную пазіцыю ў публікацыях аб усходняй Беласточчыне займалі інфармацыі, прысвечаныя палітычным падзеям у тагачаснай Расійскай імперыі. На першым плане ў гэтым аспекце высоўваюцца весткі, звязаныя з выбарамі ў Дзяржаўную Думу. Характар гэтых вестак сведчыць аднназначна аб тым, што беларусы з усходняй Беласточчыны моцна верылі ў тое, што дэмакратычна выбраная Дума станецца паслядоўным абаронцам пакрыўджаных грамадскіх слаёў і што жыццё сялянскай масы палепшыцца.

З цэласці інфармацыйнага матэрыялу аб усходняй Беласточчыне і яе беларускіх жыхарах вынікае, што агульны іх ідэйны накірунак меў тыпова пазітывісцкі характар. Аўтары інфармацый моцна верылі, што шляхам пашырэння асветы, мадэрнізацыі апрацоўкі зямлі, аб'ядноўвання сялян у рознага тыпу хаўрусы і згуртаванні палепшыцца іхняе жыццё. Ідэя рэвалюцыйных пераўтварэнняў, праведзеных шляхам грамадскага гвалту, сілы і тэрору на старонках „Нашай нівы" ўвогуле не выступае. Характар прапанаваных „Нашай нівай" перамен і рэформ змяшчаўся ў рамках ідэалогіі блізкай польскаму пазітывізму.

**Алесь Барскі**

# Парнасік

## Язык, чалавек і натура

Разумны свой язык стрымлівае, а дурань распускае,
Чалавечы род і хваліць, і паніжае.
Праз язык чалавек сам сябе ацэніць,
Натуры і звычак сваіх ён не адменіць.
Разумны чалавек заўсёды будзе разумным,
Памяркоўным, ветлівым і мудрым,
Дапаможа і ў бядзе
І на шыбеніцу не павядзе.
Ніколі не будзе даносчыкам,
Паклёпаў і гадасці разносчыкам.
Ён лепш прамаўчыць,
І такім чалавекам трэба даражыць!
А калі пагарачыцца —
Гэта можа здарыцца —
Ён скора апрытамнее
І перапрасіць ён паспее.
Могуць „пусціць” і ў яго нервы,
Аднак ён не пойдзе да *сцерваў*.
Можа выбухнуць як бомба,
Аднак у яго сэрца — асцерагальная „пломба”;
Хаця гэта рэдкія выпадкі.
Ён любіць праўду і парадкі.
На жаль, такіх людзей нямнога,
Якія вераць у шчырасць і Бога.
А дурня толькі магіла направіць,
Бо ён цэлае жыццё дурнату „славіць”.
Язык у яго, як сабачы хвост, а яшчэ горшы,
І, на жаль, такіх людзей не бяруць і ў Хароніччу.
А шкада, бо ён бывае і небяспечны
І лічыць сябе некранальным і вечным.
Заб'е чалавека, пакалечыць, і яго не засудзяць,
А ў судах вельмі марудзяць.
Дурань ці дэспот —
У іх адно горла, звычаі і рот.
І язык заўсёды каварны;
З такім чалавекам у сям'і жыць марна.
І нядарам кажуць: „Багаты хваліцца валамі,
А дурань тым, што паміж нагамі”.
І колькі сёння такіх людзей — не пералічыць,
Аднак і з такімі трэба нам жыць.

**Мікалай Панфілюк**

## Туга па зіме

Як, здаецца, прыемна,
Калі сядзіш у хаце,
І так праз вакенца
На свет пазіраці.
Як зямля прыкрыта
Снежным мяккім пухам,
А дрэўцы калыша
Ў садзе завіруха.
Як загляне ў комін,
Загудзе сярдзіта,
Як са сну праснешся,
На дварэ так ліха.
Ужо па полі гуляе
Туман белага пылу,
Зраўняў усе дарогі,
Не праедзеш машынай.
Прыляціць гіль пад хату,
Застукае ў акенца,
Просіць даць яму есці,
Забаліць тваё сэрца.
Сінічка ў акенца
Шчыра так заглядае,
І ёй даць есць трэба,
Бо ж зіма лютая.
А сарока як злодзей
Па двары гуляе,
Каб дзе яйка ўкрасці
Пільна ўсё шукае.
Пра варону няма мне
Што ўжо і казаці.
Закрычыць там на дрэве,
Мароз мусіць уцякаці!
І так студзень мінае,
Дня ўсё прыбывае
І зіма памаленьку
Ад нас адступае.

**Мікалай Лук'янюк**

## Рынак збыту

Як паехаў наш Валэнса
На Захад, дзе капітал,
Ён прамову там адпэнкаў,
Трохі грошай нам прыдбаў.
(Даравалі ў пару клубах
Палавіну нам даўгоў.
Такіх клубаў у нас з тузін.
Многа гэта нам дало?)
Нам даўгі гэтак жа сама
Трэба нейк уладкаваць,
Каб працэнты не ўцякалі,
Як з дзіравага гаршчка.
Паспрабуйце за прамову
Вы што-небудзь атрымаць.
Хай дадуць вам драхлы долар,
А я ўзнагароду дам.
За прыгожыя там вочы
(Разам з жонкай могуць быць)
Даюць дулю, а не грошы,
А на гэты раз далі.
Што ж такое паказаў ім?
Што такое даў узамен?
Што такое абяцаў ім
Дзелавіты прэзідэнт?
Ды нічога, проста дробязь,
Вось такое, напрыклáд,
Чым калісьці на ўроках
Мы палохалі рабят.
Абяцаў ім рынак збыту
(Тое толькі ім і дай),
Танную рабочу сілу
(Той не захацелі ўзяць).
З той пары няма работы.
Захад робіць, мы сядзім.
Зубы ў нас жа на паліцы,
Беспрацоўе ў нас і ў іх.
А Валэнсу, каб не плакаў,
Што марнуецца народ,
За прамову (фільм-рэкламу)
Далі кругленькі мільён.
Стаў Квас на чале суполкі
(Думалі, што камуніст),
З грацыяй сядзіць на столку,
Аднак мала што зрабіў.
Але будзь цяпер разумны
(Сам вазьмі ды паспрабуй)
Без Савецкага Саюза
Рынак збыту нарысуй.
Цяпер правіць „Салідарнасць”.
Хай па-мойму яна лепш
Не разлічвае на Захад,
Бо няма ні СЭУ, ні ВД.
Захад вельмі стаў разумны,
Як атрымаў, што хацеў,
Слаў нам пачкі пры камуне,
Ды не шле чамусь цяпер.
Лепш ахоўваць рынак збыту
(І сам Захад робіць так).
Лепш бы нам цераз граніцу
Сёе-тое не пускаць.

**Цётка Мальвіна**, 1996-1997

## Вярніся, зіма!

Зіма, зіма, куды
Ты ад нас пайшла?
У кастрычніку прыбыла
Наведаць сястрыцу-восень,
Пасля зноў адышла.
Вярталася, адыходзіла...
На Раждаство Хрыстова
Ні сняжынкі нам не дала.
У цёплыя краі паплыла,
А там цябе не чакалі.
Накрый нам палі і дрэвы
Цёплай пярынай белай,
Дай нацешыцца дзецям сабой,
Будзь сапраўднай, зіма, зімой.

**Аўрора**

# Вер — не вер

Астроне, прыснiўся мне сон, што я згубіла чорную вялікую сумку з дакументамі, ключамі. Я вельмі злосная, бо не магу ўвайсці ў хату. Быццам я за мяжой (у сумцы быў пашпарт). Пасля я быццам на нейкай вучэльні, не памятаю, ці мела весці заняткі, ці я студэнтка. Падыходжу да выкладчыка, кажу, што не змагла падрыхтаваць канспект, бо не мела магчымасці ўвайсці ў хату, а ён кажа: „Як на эканаміста, то вы маеце добрыя ногі”. Я гляджу — а я без панчох, у нейкіх растаптаных блакітных шлёпанцах, а замест сукенкі на мне нейкая сіняя трыкатажная кашуля. Я абцягваю яе ўніз, каб закрыць сцёгны — мне страшна, што можа і майтак на мне няма? А студэнты на нас і ўвагі не звяртаюць, штосьці пішуць, кожны за асобным столікам.

**Ірка**

Ірка! Твой сон даволі складаны. У самым пачатку табе прыснілася, што ты згубіла сумку, а гэта абазначала б нейкую выгадную знаходку, тым больш, што ты нібы была за мяжой, а гэта магло б прадвяшчаць паварот спраў ў лепшы бок.

Уся бяда, аднак, у тым, што ў тваёй сумцы знаходзіліся ключы, а згубіць ключ — значыцца, быць пазбаўленым свабоды, маёмасці ці ўлады. І таму нават тое, што снілася табе вучэльня (а школа варожыць поспех і сямейныя радасці), нешта засмуціць тваё жыццё. Праўдападобна, будзе гэта датычыцца нейкіх маёмасных ці маральных страт.

Вось жа, бачыш, у гэтай вучэльні ты, глянуўшы на сябе, сцвердзіла, што на нагах у цябе няма панчох, а ты ў растаптаных, як ты кажаш, шлёпанцах і, замест сукенкі, на табе трыкатажная кашуля, а нават табе здаецца, што і майтак на табе няма. Нейкія страты, недахопы будуць, бадай, нейкі час праследаваць цябе.

Мо толькі нейкае падарожжа асветліць яснай зоркай тваё жыццё. У нейкай ступені за гэта гавораць тыя шлёпанцы блакітнага колеру, хаця і яны былі растаптаныя.

**Астрон**

З глыбокім жалем успрынялі мы вестку аб смерці
**Васіля КАРДЗЮКЕВІЧА**
— дзеяча самадзейнага беларускага руху на Беласточчыне,
кіраўніка і саліста калектыву „Лявоніха”.
Словы шчырага спачування сям'і і блізкім Нябожчыка з прычыны
напаткаўшага іх гора выказваюць Грамадскі камітэт пабудовы
Беларускага музея ў Гайнаўцы і Гайнаўскі аддзел БГКТ.

# Крыжаванка

**Гарызантальна:** 2. звязак аднародных прадметаў, 4. Марыс, бельгійскі пісьменнік (1862—1949), 6. курорт у Абхазіі, 7. дзяржава ў Азіі, 9. маньчжурская дынастыя, якая панавала ў Кітаі ў 1644—1911 гг., 11. Максім, беларускі пісьменнік (1893—1938), 12. горад у Башкірыі, 13. уплывовая асоба, 15. трэск ад ломкі, 17. мяшочак для табакі, 18. Томас, англійскі жывапісец (1727—88), 19. украінскі порт.

**Вертыкальна:** 1. японскі тэатр з лялькамі і музыкантамі з XVI ст., 2. Васіль, беларускі паэт народжаны ў 1911 г., 3. сведчанне адсутнасці, 4. сталіца Саксоніі-Ангальта, 5. Алойс, партугальскі мараплавец, даследчык заходняга ўзбярэжжа Афрыкі (1426—1511), 6. Тыберый (162—133 да н.э.) або Гай (153—121 да н.э.), старажытнарымскі палітычны дзеяч, 8. старая назва каштоўных камянёў, 9. Флавій, рымскі імператар (39—81), 10. ніжняя частка, 14. Джон, англійскі паэт (1578—1632), 16. паўночны хваёвы лес, 17. магазін.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 50 нумара**

**Гарызантальна:** горад, Белатрыкс, Пегас, аймак. Інд, Хрушчоў, Ваянскі, Ева, Саўці, кліка, Крашэўскі, афіша.

**Вертыкальна:** Фрытаўн, Галус, Дрыса, Багушэўск, семяннікі, парус, кукса, Іўе, два, Вучэціч, Ібара, коска.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму і Лукашу Пацэвічу** з Беластока.


**Ніва**

„Niwa”, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435 022.

Druk: „ORTHDRUK”, ul. Składowa 9, Białystok.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Выдае:**
Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
Старшыня Праграмнай рады: Яўген Мірановіч.

**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1998 r. upływa 5 marca 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał 1998 r. wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

## Адказ на дакоры Макацёра*

Як папракаў гаршчок кацёл,
Што брудны ён, як у смале,
Так дакарае Макацёр
Мне за „чырвоны партбілет".

Ён сам здаўна з **ім** „віраваў"
У „ніверсіцеце" у Маскве
**З ім** афармляў ён многа спраў,
І ў камітэтах **з ім** „гавеў".

**З ім** выпіў многа ён віна
На партнарадах за сталом,
І з **ім** не „муляла казна".
І партбілет не быў „кляймом".

Ой, Сідар, Сідар Макацёр,
Звяртай увагу на дакор!

**Дзмітры Шатыловіч**

*Глядзі таксама: „Блуканне па пакутах" у зборніку Сідара Макацёра *Макатразмы* (стар. 62).

## Думкі ў час мігрэні

* Шчасце мае дурную звычку спяшацца, няшчасце, наадварот, — любіць заседжвацца.
* Калі не маеш сілы, тады толькі настойлівасцю даб'ешся рэзультату.
* Быць хрысціянінам не значыць толькі згаджацца з ідэяй Хрыста, але перш-наперш ісці яго следам.
* Кожная барацьба з сексуальнасцю — безвыніковая.

**Пётр Байко**

**Фрашкі пра нашых**

## Праўда пра Сэрцайка

Піша ліст у „Сэрцайка" Дзяўчына,
Расплываецца атрамант у слязах.
Сэрцайку такое не навіна —
Расчытае словы па начах.
Бо не спіцца, узрост такі, ейбогу,
Што ні кніга, ні келіх паможа.
Пакідае спячага старога (?),
А *само* да поўначы варожыць,
Абмяркоўвае адказ найлепшы
І любуецца ў дэталях грэшных,
А ў дванаццаць (або каля першай)
Лезе ў ложак, *спаці* захацеўшы.

**Вандал Арлянскі**




Малюнак П. Сігуты

## Выбар

Вось сяджу і думаю: адпачынак, як кажуць, на носе, а яшчэ не вызначыў, дзе і як яго праводзіць. Праўда, выбар у мяне багаты: запрашаюць паехаць і туды, і сюды, нават на нейкія Канарскія астравы нядаўна прапаноўвалі. Але, пэўна, туды надта далёка. Я па кошту мяркую. А ён сотнямі тысяч рублёў вымяраецца ды яшчэ і тысячамі даляраў. А тыя даляры я толькі і бачыў, што па тэлебачанні, калі паказвалі, як адрозніць сапраўдны ад фальшывага.

Не, тыя Канарскія астравы не па мне. Далёка надта. Дзеці, жонка хваляваліся будуць. Яшчэ, чаго добрага, Анюта мая прыраўнуе там да якой канаркі, дык тады хоць дадому не вяртайся. І той славуты трохкутнік, як яго, ну, дзе розныя караблекрушэнні адбываюцца, таксама не падыходзіць. Мне жыццё даражэй, чым іхняя экзотыка.

Праўда, можна было б на Японскія астравы махнуць, але зноў жа гэта раўназначна, што з аднаго пекла ў другое трапіць. У іх там Хірасіма і Нагасакі, у нас — Чарнобыль. Не, дудкі, стрэленага вераб'я на мякіне не правядзеш: сваіх розных нуклідаў наглытаўся па завязку, замежных не трэба.

Калі ўжо адпачываць, дык лепш бліжэй. Ну, хоць бы ў той жа Турцыі. І плата параўнальна памяркоўная. Праўда, і тут не абысціся без зялёненькіх, якія я па тэлебачанні бачыў. Ды не ў гэтым справа. Турцыя ёсць Турцыя, у мяне да яе з дзяцінства недавер, калі ўпершыню прачытаў пісьмо запарожцаў да іхняга султана. Можа, цяпер там нешта і змянілася, але ж усё роўна жывуць пераважна туркі, а значыцца, як ні круці, народ затурканы, як і наш.

Во ўжо калі выбіраць месца для адпачынку, дык гэта Грэцыя. Яшчэ даўно адзін класік сцвярджаў, што там усё ёсць. Дык гэта ж калі тое было, калі там усё было! А цяпер, пэўна, там усяго гэтага з каптуром, а то, можа, і больш. Чакай, чакай...

— Што ты сядзіш, як пень! Ты паедзеш да бацькоў ці не? — Гэта голас маёй Анюты. Яна заўсёды ўмудраецца перапыніць думку ў самым цікавым месцы. Як гэта ёй удаецца, да гэтага часу не разумею. Бывай, Грэцыя, дзе ўсё ёсць. Мяне чакаюць Пухавічы, дзе жывуць Анюціны бацькі і якім трэба дапамагчы ў гаспадарцы. Во толькі неяк на білет туды наскрэбсці трэба. На зваротны білет, думаю, „адшпіляць" ад сваёй пенсіі цешча з цесцем.

**Уладзімір Правасуд**

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Маладая пара прыбывае ў гасцініцу на пасляшлюбную ноч.

— Хачу найлепшы пакой на цэлыя суткі, — гаворыць ён у прыёмнай.

Парцье дае яму ключ ды падморгвае дзяўчыне:

— Ну, маленькая, ты хіба падабаешся яму, бо дагэтуль ён знімаў у нас нумар толькі на дзве гадзіны.

* * *

Пяцідзесяцігадовы ўдавец ажаніўся трэці раз ды ў пасляшлюбную ноч не даў рады.

— Такое здараецца мне ўпершыню, — тлумачыцца ён.

— І мне таксама, — адказвае яна.

* * *

— Пеця! Ты цяпер цэлы мой! — захапляецца яна ўваходзячы ў спальню ў пасляшлюбную ноч.

— Не, не цэлы, бо касцюм з пазыкова магазіна.

* * *

— Ты ў мяне як сняжынка, — шэпча муж маладой жонцы.

— Такая прыгожая?

— Не, такая зябкая.

* * *

— Андрэй, — звяртаецца жонка да мужа, — перад шлюбам вазіў ты мяне з тэатра дадому толькі на таксі, а цяпер вяртаемся на аўтобусе...

— Бо я так ганаруся табою, што хачу гэтым перад усімі пахваліцца.

* * *

— Ці прышыла ты гузік да маёй кашулі?

— Не, але зашыла пятліцу.

* * *

— Дарагая, ты не варыш так, як мая мамачка.

— А ты, даражэнькі, не зарабляеш столькі, колькі мой татачка.

* * *

Гутараць дзве сяброўкі:

— Мой муж не верыць у забабоны, некрытычны ён і не мае вялікіх патрабаванняў...

— Цешся, бо інакш ён з табою не ажаніўся б!

* * *

— Што чуваць у тваіх дачок?

— Адна плача, што яшчэ дзеўкаю, а другая плача, што выйшла замуж.

## Сардэчныя ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Пішу не столькі дзеля сябе, колькі дзеля іншых няшчаснікаў, якія паверылі бабам, а цяпер выюць з болю. І яшчэ — каб іншыя былі разумнейшыя.

Дальбог, я пераканаўся, што старыя людзі мне праўду гаварылі: бабу трэба трымаць у рызах, інакш, братка, прапаў. А колькі ж яна да мяне лашчылася, як прымілялася, пакуль дзеўкай была. Ну, і злавіла, лепш не скажаш. Ды так злавіла, што свету за ёй чалавек не бачыў.

Дзіця ў нас нарадзілася, дзяўчынка. Кватэру яе і мае бацькі супольна нам купілі. Нават і аўтамабіль далі ды мэблю. Чаго, здаецца, хацець?! Сядзі ў хаце, дзіця гадуй, мужам цешся...

Не! Усё ёй было кепска. У хаце сядзець — не для яе. Яна ж створана для вышэйшых мэт, а не для пільнавання дзіцяці.

Ну, добра, кажу. Знайду табе працу. Пагаварыў з тым-сім і добра платную пасаду жонцы знайшоў. Божачкі, у яе ж толькі матура, не так, як у мяне: вышэйшая адукацыя, у кожнай фірме знаёмы. Людзі нават дзівіліся, як мне гэта ўдалося ў сённяшнія часы. Маю крыху спрыту і добрых сяброў, адказваў я.

Праўду сказаўшы, я быў надта задаволены сабою і не скрываў гэтага. Мне імпанавала тое, што яна была залежная ад мяне, а ў мяне былі такія вялікія магчымасці.

Нарэшце мая жонка супакоілася. Ужо нарэшце мела „сэнс жыцця", купляла сабе мноства вопраткі, моцна малявалася. Паявілася ў яе шмат новых сяброваk, бо і мела час. Дзіцём жа ўвесь дзень займаліся яе бацькі і там жа мы абедалі. Малую фактычна мы забіралі дахаты толькі к вечару.

Прайшоў, аднак, нейкі час, як мая жонка ізноў пачала капрызіць. Дальбог, быццам у той казцы пра рыбака і рыбку: не хачу працаваць тут, хачу — заграніцай. Людзі, вунь, едуць за мяжу, ды грошы якія зарабляюць, а мы тут будзем сядзець, да багацця іншых прыглядацца, ды ад бацькоў выцягваць апошні грош!

Добрая з цябе дачка, падумалася мне, і я вырашыў разведаць (ізноў сярод знаёмых), куды варта было б падацца на заробак. Я думаў, што мы паедзем разам, прынамсі гэты выезд меў бы сэнс, але яна: не! Вядома, нехта ж з бацькоў мусіў бы застацца з дзіцём. Я, як дурань, шукаў ёй працы, а яе цікавіла адно: яе фірма якраз адкрывала адзін з філіялаў у Францыі і надта ёй карцела паехаць туды прынамсі на паўгода. Але яе туды не бралі.

Божа! Навошта мне гэта было! Мучыла мяне яна, мучыла — і я вырашыў пагаварыць з яе шэфам. Згадзіўся, уяві сабе!

Праўда, паехала яна ўсяго на паўгода, але і гэтага ёй дастаткова было, каб скруціцца з нейкім французам. Развод! — гэта злавеснае слова павісла нада мною, як Дамоклаў меч. Паўтарала гэта слова ў кожнай тэлефоннай размове. Не цікавіла яе, што ў нас новага, як дачка, толькі думка аб тым, каб аслабаніцца ад сямейных кайданаў, займала ўсе яе думкі. Божа мой, ці не захацела яна стаць француженкай?!. Маючы развод, магла б яна выехаць у тую Францыю...

Усё адбылося паводле самага чорнага сцэнарыя, які толькі мог уявіцца мне. Прыехала дахаты цяжарная, атрымала развод і забрала дачку, якую суд прызнаў ёй. Што нагаварыла на мяне ў судзе, у часе разводу, лепш не ўспамінаць. Дагэтуль я нават не думаў, што я быў аж такім кепскім мужам. Не было пра мяне ніводнага не толькі добразычлівага слова, але нават слова праўды. Пасля разводу жонка выехала з дзіцём.

Цяпер я жыву, быццам у нейкай летаргіі. Часамі нават мне здаецца, што сню нейкі кашмарны сон. А я ж ёй зрабіў столькі добрага...

**Андрэй**

Андрэй! А старэйшых людзей трэба слухацца. У аднаго мудраца запыталі: біць ці не біць жонку? І ён адказаў: бі бабу ад часу да часу, бі нават тады, калі не ведаеш, за што. Яна ўжо напэўна будзе ведаць. А ты, брат, дабрынёю...

**Сэрцайка**